# Беларусаў ногі кормяць. Украінцаў таксама

№ 34 (871) 10 верасня 2014 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Сурадзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

Ва Украіне ўсё таннейшае, і жыхары поўдня Беларусі масава закупляюцца на мяжы і за мяжой. Рэпартаж Сяргея Макарэвіча і Сяргея Гудзіліна са Столінскага раёна.

Старонка 5

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



**Украіна**

## Беларус з батальёна «Данбас»

«Вайна вучыць цаніць час, які мы маем». Старонка 3.

**Стыль**

## Птушкі Бацькаўшчыны і мода

Праект архітэктаркі Аляксандры Баярынай. Старонка 9.



# Яны памерлі за Пуціна

З розных куткоў Расіі даходзяць весткі пра пахаванні расійскіх дэсантнікаў, што загінулі ва Украіне. Расійскае тэлебачанне кажа «апалчэнцы», «жыхары Данбаса», а на самай справе ўдарную сілу «ДНР» і «ЛНР» складаў расійскі дэсант, Кастрамская і Пскоўская дывізіі.

Старонка 3

REUTERS

# Скарачаюць, скарачаюць — і ўсё ніяк

Чым скончылася рэформа дзяржапарату?

Зусім нядаўна Аляксандр Лукашэнка анансаваў чарговую хвалю скарачэння колькасці гасударавых людзей. Аднак прыкарытныя сродкі масавай дэзынфармацыі чамусьці «пасаромеліся» пры гэтым апублікаваць вынікі папярэдняй грандыёзнай рэформы дзяржаўнага апарату, пасля якой так хутка спатрэбілася новая. Паспрабуем папоўніць такі прыкры прабел самастойна.

Для гэтага нам спатрэбіцца «Статыстычны штогадовік Рэспублікі Беларусь—2014». У ім размясцілася цікавая табліца. Якая адлюстроўвае дадзеныя аб колькасці служачых дзяржаўнага апарату ў яго дарэформенным стане і пострэформенным.

| | На 1 кастрычніка 2012 | На 1 лістапада 2013 |
|---|---|---|
| Усяго работнікаў у дзяржаўных органах | 74 537 | 68 807 |
| З іх дзяржаўных служачых | 58 148 | 49 326 |

Відаць, што ніякага 25%-ага скарачэння дзяржслужачых ні ў цэлым, ні па якой-небудзь асобнай катэгорыі не адбылося. Работнікаў усіх дзяржорганаў і арганізацый стала аж на 7,7% менш, а тых, хто валодае статусам «дзяржслужачага» — на 15,2%.

Больш за ўсіх разагналі дзяржорганы і арганізацыі, падпарадкаваныя Мясніковічу. У іх пералік уваходзяць разнастайныя міністэрствы, канцэрны, камітэты (акрамя сілавых), агенцтвы і іншыя структуры рэспубліканскага маштабу. Усяго кантынгент работнікаў Саўміна паменшаў на цэлых 16%, з іх дзяржслужачых — на 17,1%.

Другімі ў спісе пацярпелых апынуліся абласныя, раённыя і сельскія выканкамы разам з іх шматлікімі падраздзяленнямі. Плач Яраслаўны прагучаў у выкананні 12,6% работнікаў мясцовых органаў выканаўчай улады, на 15,5% парадзелі шэрыя шэрагі непасрэдна чыноўнікаў.

Кракадзілаву слязу ў перыяд перазменкі 2012—2013 гадоў пусцілі 8,1% занятых у дзяржаўных органах заканадаўчай улады. Колькасць дзяржслужачых, надзеленых правам прымаць да ведама дэкрэты і зрэдку праштампоўваць законы, знізілася на 7,5%. Паколькі ні склад пакорлівай «палаткі», ні «савета рэспублікі» не змяніўся, былі пушчаныя пад нож галовы са шматлікага натоўпу іх абслугі.

Наогул не заўважылі свіст куль над галавою сабратоў па ручцы і клавіятуры ў айчынных судах.

Самая цікавая сітуацыя па добрай традыцыі склалася ля ног гасударавых. Калі з утварэнняў, кіраваных камандантэ, з найвялікшым напружаннем атрымалася выпхнуць 13,5% чыноўнага складу, то колькасць работнікаў дзяржорганаў і арганізацый, падпарадкаваных альбо падсправаздачных асабіста кіраўніку дзяржавы, вырасла на 23,7%! Гэта значыць, 909 таварышаў з крышталёва сумленнымі вачамі не пераздрадніцку выгналі з хаты на мароз, а па-бацькоўску перавялі за штат чыноўніцкай службы. Вось ужо дзе — дзяржава для народа!

Увогуле, з нецярпеннем чакаем развіцця падзей вакол наменклатурнай гідры. Бо гідра, як вядома, адзіная жывёла, якая лічыцца навукай патэнцыйна несмяротнай.

**Даслаў на nn@nn.by**
**чытач Праўдаруб**

## «Прынцыповая пазіцыя» Ігара Бузоўскага



Кіраўніцтва Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі расказала пра дзейнасць арганізацыі. БРСМ ладзіць праекты «Дзякуй за Перамогу!», «Героі Перамогі», «Моладзевы марафон «70!», «70 гадоў міру». А вось да 500-годдзя бітвы пад Оршай БРСМ не падрыхтаваў нічога. Першы сакратар Ігар Бузоўскі патлумачыў, што гэта «неадназначная» гістарычная падзея можа скіраваць у дэструктыўнае рэчышча, на раз'яднанне.

«НН» пацікавілася ў прадстаўнікоў арганізацыі, чаму ў асвятленні гісторыі Беларусі БРСМ існуе такі перакос у бок адной гістарычнай падзеі.

Адказваючы, Бузоўскі чамусьці вырашыў патлумачыць і чаму ён не размаўляе па-беларуску, хоць моўнае пытанне на прэс-канферэнцыі не падымалася: «Вывучаючы гісторыю, мы рэалізуем праекты, у першую чаргу такія, каб яны былі асабіста пранізаныя, каб моладзь прадэманстравала мерапрыемствы, накіраваныя на беларускую мову, на вывучэнне гісторыі. Тое, што мы сёння не гаворым, нават на ваша пытанне не адказваем па-беларуску — гэта прынцыповая пазіцыя, каб не казаць пра некаторыя рэчы няправільна, непрыгожа. Калі весці гаворку на афіцыйным узроўні, хацелася б... Я сам з вёскі, ведаю беларускую, але не хацелася б рабіць памылкі. Гэта справа будучыні, гэта справа перспектывы. Мы будзем рабіць усё, каб і мова наша развівалася, і культурныя традыцыі нашы развіваліся. Агромністая колькасць праектаў, у тым ліку «Уладар сяла», пра які сёння казалі, накіраваная на патрымку вёскі, дзе нашыя карані, дзе наша душа, дзе душа Беларусі».

**Кірыла Хілько**




**Дзяўчаты з суполкі «Разам для Беларусі» сфатаграфаваліся ў Мінску з улёткамі «Расійская армія, ідзі дамоў!». Аналагічныя ўлёткі былі распаўсюджаныя ў Пінску, Барысаве, Магілёве, Рэчыцы, Гомелі.**



**Удзельнікі арт-групы «Партызан» пафарбавалі ў бел-чырвона-белыя колеры 15-метровы знак на ўездзе ў Салігорск. Акцыя прымеркаваная да 500-годдзя Аршанскай бітвы.**



**Да 500-годдзя перамогі пад Оршай актывісты БХД вывесілі чатырохметровы бел-чырвона-белы сцяг на плошчы Якуба Коласа ў Мінску.**




**Перад матчам Люксембург—Беларусь на гасцявой трыбуне беларускія заўзятары вывесілі вялікі банер, прысвечаны 500-годдзю перамогі войскаў ВКЛ. Частка заўзятараў сядзела з бел-чырвона-белымі сцягамі. А вось футбалісты падвялі — 1:1.**

### Самае чытанае на nn.by за 3—9 верасня

1. Сакратар БРСМ: Што мы не адказваем вам па-беларуску — гэта прынцыповая пазіцыя
2. Міхалок абвесціў пра стварэнне гурту Brutto, выпусціў першы кліп ВІДЭА
3. Эксперымент: чалавеку кепска ў Мінску. Як рэагуюць людзі ВІДЭА
4. Расійскія сілы пачалі наступ на Марыуполь
5. Расійскі вайсковец: Страты велізарныя. У чачэнскай кампаніі мы такіх не неслі
6. У Светлагорску звольнілі з працы Настаўніцу года
7. Паратнікаў: «Гэта падрыхтоўка да паўнавартаснай мяжы з Расіяй»
8. Маладзечанскі начны клуб прапануе гадавы абанемент за фота і відэа
9. Улады забаранілі святкаванне 500-годдзя Аршанскай бітвы
10. Легендарная тэнісістка Наўрацілава жэніцца з былой міс СССР

# Яны памерлі за Пуціна

З розных куткоў Расіі даходзяць весткі пра **пахаванні расійскіх дэсантнікаў**, што загінулі ва Украіне.

Усё тайнае становіцца яўным. Вось і выходзяць на яву маштабы ўдзелу рэгулярных часцей расійскай арміі ў баях ва Украіне. Расійскае тэлебачанне кажа «апалчэнцы», «жыхары Данбаса», а на самай справе ўдарную сілу «ДНР» і «ЛНР» складаў расійскі дэсант, Кастрамская і Пскоўская дывізіі. Савур-Магілу і Ілавайск (чужыя, украінскія гарады, у суверэннай, незалежнай дзяржаве, братняга, славянскага народа) яны ўзялі, за цаной не пастаялі. Камітэт салдацкіх маці Расіі сцвярджае: толькі з 18-й Асобнай мотастралковай брыгады, в/ч 27777, у баях ва Украіне ўдзельнічалі 1200 салдат і афіцэраў. 120 з іх загінулі.

Аказалася, што яшчэ ў Крыме дэсантнікаў апраналі ў форму ўкраінскага «Беркута», каб падавалася, што гэта «мясцовае насельніцтва паднялося».



Антон Туманаў.



Вячаслаў Кавалёў (на фота злева).



Мікалай Казлоў з бацькам. Вайсковец не загінуў, але страціў нагу.

Вось урыўкі з гісторый тых, што не вярнуліся дамоў.

20-гадовы Антон Туманаў, жыхар Казьмадзям'янска Рэспублікі Марый Эл. Служыў кантрактнікам у 18-й Асобнай мотастралковай брыгадзе, расквартаванай у Чачні. З Украіны Антона Туманава прывезлі ў закрытай труне. Аповед мамы:

«Ногі адарвала яму, вядома. Хлопцы расказалі. Але я і так адчувала, што ў труне ён не цэлы...Для войска ён прыдатны, а для працы — не. Антон ад'язджаў у Ніжні, месяцы тры працаваў на аўтазаводзе. Жыць няма дзе, здымаць дорага... Вярнуўся. У Маскву з'ездзіў пару разоў, на будоўлі з хлапчукамі папрацаваў. Грошы ім не заплацілі, на зваротны білет я яму высылала. А ў нас у Казьмадзям'янску дзе працаваць? У маі кажа: «Я, мама, пайду ў войска па кантракце». Я — давай адгаворваць: «Ты пачакай, бачыш, абстаноўка якая... Не дай бог, сунуць ва Украіну, была ж у нас Чачня, быў Афганістан...»

Зарплату за паўтара месяца службы Антон так і не атрымаў. Хатнім ён казаў, што яму абяцалі 40-50 тысяч рублёў. Хлопцы-калегі патлумачылі, што Антона, мабыць, падманулі: яны атрымліваюць не больш за 30.

21-гадовы Вячаслаў Кавалёў, жыхар Курганскай вобласці. Служыў у 31-й Асобнай гвардзейскай дэсантна-штурмавой брыгадзе ва Ульянаўску. «Яны ехалі ў баявой машыне, іх падбілі з мінамёта, і ён памёр ад раненняў», — паведаміў адзін з сяброў Вячаслава Кавалёва.

21-гадовы Мікалай Казлоў, жыхар Азёрнага (Чэлябінская вобласць). Служыў аўтамеханікам у 31-й Асобнай дэсантна-штурмавой брыгадзе, у Данбасе хлопцу адарвала нагу. «Украінцы вельмі разумна і хітра ваююць Артылерыя надзвычай дакладная. Колеў атрад трапіў у засаду на жыўца. Спачатку ўкраінцы ўзялі ў іх дваіх палонных», — расказвае дзядзька Мікалая Казлова Сяргей.

Як расказаў Казлоў дзядзьку, стралялі з нейкай бранябойнай прылады. Першым жа стрэлам Колю адарвала нагу.

«Усе думалі, ён двухсоты (труп — Рэд.), — кажа Сяргей Казлоў. — Нехта з салдат паспеў адцягнуць яго з лініі агню. Коля сам змог накласці жгут на тое, што засталося ад нагі, спыніць кроў, укалоць лекі...

Далей Колю двое сутак — з сэпсісам, у спякоту, з вялікай стратай крыві — везлі да мяжы. У растоўскім ваенным шпіталі (па словах Колі, перапоўненым паранёнымі) зрабілі аперацыю і адправілі ў Маскву»

Болей гісторый чытайце на nn.by.

**Мікола Бугай**

Андрэй Макарэвіч.
## Моя страна сошла с ума

Рождаясь, не выбирают страну,
И нам вовек не оборвать эту нить.
Моя страна ушла на войну,
И я не смог ее остановить.

Кому — власть да сласть,
кому — сума да тюрьма,
А я не в силах эту боль превозмочь.
Моя страна сошла с ума,
И я ничем не могу помочь.

И что тут делать, и как тут быть,
Если все отныне верх дном.
Не надо нимбы и крылья растить,
Надо просто не быть говном.

И я уверен только в одном —
Пришла пора выбирать.
Но если решил не быть говном,
И жить легко, и умирать.
И жить легко, и умирать.
И жить, и не умирать.

Гэтую песню саліст гурту «Машина времени» Андрэй Макарэвіч напісаў у адказ на падзеі ва Украіне. Разам з яшчэ 120 дзеячамі культуры Расіі ён падпісаў смелы зварот «Спыніць расейскую агрэсію!». Гэтая заява апублікавана на сайце «Новай газеты».

# Беларус з батальёна «Данбас»: Вайна вучыць цаніць час, які мы маем

Беларусы, якія ваююць у складзе добраахвотніцкага батальёна «Данбас», вырваліся з атачэння пад Ілавайскам разам з украінскімі вайскоўцамі. Адзін з іх — беларус з пазыўным «Леў».

Паводле яго слоў, ён браў удзел у вывазе параненых і забітых пад Ілавайскам. Іх транспартавалі на «хуткай» і двух грузавіках пад прыкрыццём аднаго БТРа. Яны прарваліся праз Старабешава, дзе, як казалі, стаялі расійскія танкі. Стратаў не было. «Удача любіць смелых», — кажа «Леў».

Мы знайшлі «Льва» ў Днепрапятроўску, ён пагадзіўся адказаць на некалькі пытанняў.

**«Наша Ніва»: Чаму Вы вырашылі паказаць свой твар? Раней жа гэтага не рабілі.**

**Леў:** Шмат што адыграла сваю ролю. Мне больш няма чаго хавацца. Калі хтосьці захоча знайсці мае дадзеныя, ён і так гэта зробіць.

**«НН»: Дык, можа, раскажаце крыху пра сябе?**

**Л:** Не хачу ліць ваду на млын тых, хто зараз расшуквае мяне. Няхай самі збіраюць інфармацыю. Мне каля 40 гадоў, нарадзіўся недалёка ад Мінска.

**«НН»: А з якога часу Вы на Украіне?**

**Л:** Дзесьці ад 24—25 мая. Паехаў, каб аказаць брацкую дапамогу. Каб пабачыць свабодную краіну. А яшчэ — атрымаць досвед.



**«НН»: Вы не лічыце ўкраінскую вайну чужой для Беларусі?**

**Л:** Абсалютна не. Калі б ва Украіне усталяваўся рэжым кшталту таго, што цяпер у Расіі ці нават Беларусі — гэта была б здрада. Нельга казаць, што сітуацыя ва Украіне ніяк не звязаная з Беларуссю. Беларусы хочуць пахітраму пераседзець гэтую вайну, каб іх не зачапіла. На вайне, вядома, страшна. Але не настолькі, каб самому станавіцца, па-руску кажучы, БЕСЧЕСТНЫМ. Лепш я буду ваяваць, але рабом не стану.

**«НН»: А што самае страшнае на вайне?**

**Л:** Страты. З іх і складваецца ўспрыняцце вайны. Я страху не адчуваў, адчуваў толькі гнеў. Па сутнасці, страху і не павінна быць, толькі спакой. Бо спакой дапамагае табе ў экстрэмальных сітуацыях. Што тычыцца стратаў, то ў пэўны момант адбываецца наміналізацыя...

**«НН»: Вы сказалі — мабілізацыя?**

**Л:** Наміналізацыя. Калі ўсё гэта ты складваеш у адну папку «Страты». [Гэты лінгвістычны тэрмін ужываецца ў псіхалогіі, і ў філасофіі часам. Значэнне там у тым ліку — найвышэйшая ступень абагульнення. — Рэд.]

**«НН»: Вы шмат сустракалі беларусаў на гэтай вайне?**

**Л:** Чалавек сем-восем. Бачыўся з імі, размаўляў. Цяпер у батальёне «Данбас» засталося чалавекі тры-чатыры беларусаў. Астатнія жывыя, нават не параненыя. Але так склалася, што яны былі вымушаныя з'ехаць з зоны баявых дзеянняў — сям'я паклікала ці іншыя прычыны. А пра атрад «Пагоня» я шмат чуў, але не сутыкаўся з імі.

**«НН»: Цяпер шмат гавораць пра камандзіра «Данбаса» Сямёна Сяменчанку. Што Вы можаце расказаць пра гэтага чалавека?**

**Л:** Гэта валявы чалавек, з характарам. Я дапускаю, што ў яго могуць быць палітычныя амбіцыі, бо па яго ініцыятыве была створаная вядомая арганізацыя «Данбас».

**«НН»: Дык што ўсё ж здарылася пад Ілавайскам? Чаму Вы трапілі ў засаду, у акружэнне?**

**Л:** Менеджмент кепска наладжаны. Калі б быў добры менеджар, то Ілайвайск застаўся б за намі.

**«НН»: А недаацэнкі праціўніка не было?**

**Л:** Ніхто не чакаў, што там будуць расійскія войскі. Я ўвогуле разглядаю Ілавайск як нашу перамогу, нягледзячы на шматлікія ахвяры. Нас чакалі ў засадзе, але мы змаглі захапіць 2—3 танкі, 3—4 БТРы, узяць палонных. Гэта дарога каштуе.

Батальён тэрытарыяльнай дапамогі Данецкай вобласці «Данбас» быў утвораны вясной гэтага года. Галоўная мэта батальёна — захаванне непадзельнасці Украіны, знішчэнне ўзброеных тэрарыстаў. Камандзір батальёна — Сямён Сяменчанка.

**«Я яго лічу героем»**

Вадзім Доўнар, беларускі журналіст, які працуе ў Кіеве, выказаўся аб асобе камандзіра батальёна «Данбас» Сямёна Сяменчанкі: «Я яго лічу героем, як і кожнага, хто быў і ёсць на вайне. Мяне амаль не цікавяць сваркі, што вядуцца вакол гэтай асобы. Мяркую, што гэты бруд — замовы з Расіі. Але мне здаецца, што ён дарма збіраецца ў палітыку. Давер да байцоў за Украіне сёння велізарны, але менавіта як да байцоў. Ды і не час яшчэ, пакуль у краіне вайна».

**«НН»: А якія цяпер настроі ў «Данбасе»?**

**Л:** Самыя розныя пачуцці. Ніхто не баіцца памерці. Але не хочацца, каб смерць мы сустрэлі па дурасці. Байцам цяжка змірыцца з такім станам рэчаў, што ёсць цяпер.

**«НН»: Што галоўнае Вы выносіце з гэтай вайны?**

**Л:** Трэба умець цаніць час, які ў цябе ёсць.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

# Паратнікаў: «Гэта падрыхтоўка да паўнавартаснай мяжы з Расіяй»

Аляксандр Лукашэнка 4 верасня падпісаў указ №433 «Аб унясенні змяненняў ва Указ прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 9 сакавіка 2009 №125», якім **усталёўваецца памежная тэрыторыя** ў межах адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, якія прымыкаюць да дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь з Расійскай Федэрацыяй.

«Гэта дасць магчымасць стварыць умовы для рэалізацыі ўскладзеных на органы памежнай службы задач і функцый у межах гэтай мясцовасці, а таксама арганізаваць належнае ўзаемадзеянне з пагранічнымі органамі Расійскай Федэрацыі, накіраванае на рашэнне задач па выяўленні і спыненні транзітнай незаконнай міграцыі, наркатрафіку і незаконнага перамяшчэння праз мяжу таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў», — растлумачылі ў прэс-службе кіраўніка дзяржавы.

Што гэта значыць? Мы папыталіся эксперта ў сілавой тэматыцы, стваральніка аналітычнага цэнтра Belarus Security Blog Андрэя Паратнікава.

«Перш за ўсё варта адзначыць, што на сённяшні дзень на мяжы з Расіяй няма беларускіх памежнікаў зусім. Існуе толькі габарытны кантроль, — адзначае сп.Паратнікаў. — З расійскага боку раней існавалі памежныя атрады, цяпер яны ператорваныя ў пагранічныя Упраўленні ФСБ Расіі па Смаленскай і Бранскай абласцях. Яны маюць тыя самыя функцыі, што атрады, толькі зменшаныя ў колькасці».

«Калі ўводзіцца прыгранічная тэрыторыі, то беларускія памежнікі абавязкова з'явяцца там. Гэта значыць, для знаходжання на гэтых тэрыторыях патрэбныя дазволы памежнікаў. Відавочна, будзе здзяйсняцца пэўны пашпартны кантроль. Фактычна, гэта ўскоснае сведчанне, што рыхтуецца ўсталяванне паўнавартаснай мяжы з Расійскай Федэрацыяй».

Андрэй Паратнікаў кажа, што ў 2012 годзе праходзілі неафіцыйныя штабныя вучэнні Памежнага камітэта, дзе за мэту ставілася перакрыць мяжу з Расіяй. Прычым зрабіць гэта мусілі ў найкарацейшыя тэрміны — 3—5 сутак. Праўда, памежнікі сутыкнуліся з праблемамі, найперш матэрыяльным і тэхнічным забеспячэннем на расійскай мяжы, амаль поўнай адсутнасцю інфраструктуры.



Сяргей Гудзілін

«Калі будзе ўведзеная граніца, то ўзнікае пытанне з мытняй. Ці будзе яна таксама? Калі так, то вельмі цікава, што гэта за Мытны саюз?» — задаецца пытаннем эксперт.

Паратнікаў лічыць, што падзеі ва Украіне маглі стаць каталізатарам для прыняцця такога рашэння.

Ці не можа ўвядзенне рэжыму прыгранічнай тэрыторыі быць па просьбе ці патрабаванні Расіі? Каб забароненыя заходнія прадукты не траплялі на тэрыторыю Расіі з Беларусі? «Наўрад ці. Гэта не справа Памежнага камітэта. Хутчэй гэтым павінны займацца мытнікі ці органы ДАІ».

**Зміцер Панкавец**

## Партыя БНФ абярэ кандыдата ў прэзідэнты рэйтынгавым галасаваннем

13 верасня ў Палацы таварыства глухіх (Уральская, 3) адбудзецца з'езд Партыі БНФ. Сярод іншага будзе разгледжанае пытанне ўдзелу арганізацыі ў прэзідэнцкіх выбарах. Старшыня БНФ Аляксей Янукевіч кажа, што сама партыя наўрад ці будзе вылучаць гэтым разам уласнага кандыдата.

Каго падтрымае БНФ на выбарах-2015, будзе вырашана пасля рэйтынгавага таемнага галасавання. Удзельнікам з'езду будзе прапанавана выбраць паміж пяцю кандыдатамі (хаця, магчыма, будуць і змены): Уладзімірам Някляевым, Аляксандрам Мілінкевічам, Аленай Анісім, Мікалаем Статкевічам і Анатолем Лябедзькам.

Хто ў выніку нябярэ найбольшую колькасць галасоў, таго Партыя БНФ будзе падтрымліваць пры далейшым вылучэнні на ролю адзінага кандыдата ад апазіцыі.

Таксама запланаваныя змены ў праграме партыі. Напрыклад, БНФ у звязку з апошнімі падзеямі ва Украіне адмаўляецца ад прасоўвання ідэі прафесійнага войска, лічачы, што сёння павінен застацца абавязковы прызыў. Таксама ў праграму будзе закладзенае патрабаванне адмены смяротнага пакарання.

**ЗП**

## Украінцы і беларусы назбіралі грошай на кватэру для сям'і героя Майдану Жызнеўскага

Нядаўна бацькі забітага на кіеўскім Майдане 18 студзеня 2014 года Міхаіла Жызнеўскага пераехалі ў новую двухпакаёвую кватэру ў Гомелі.

Большую частку неабходнай сумы на кватэру выдзелілі ўкраінскія фонды. Гэта цэнтр дапамогі пацярпелым Майдану «Радзіма Майдан» і дабрачынны фонд Рыната Ахметава «Развіццё Украіны».

Акрамя ўкраінскіх фондаў, грошы Жызнеўскім збіралі грамадзяне пяці краін. Гомельскі грамадскі дзеяч Андрэй Стрыжак, які быў адным з каардынатараў кампаніі, кажа: «Сродкі таксама збірала ініцыятыўная група, у якую ўваходзілі юрыст Дар'я Каткоўская і іншыя грамадскія актывісты. Ахвяраванні ў памеры каля 5 тысячаў даляраў прыйшлі з Беларусі, Польшчы, Літвы, Эстоніі. Украінцы збіралі самі, без каардынацыі з намі, але мы мелі шчыльны кантакт і параўнанне. Зборам на Украіне займаліся блізкія сябры Міхаіла Уладзімір Заботлін і Аляксандра Шышуліна».

Стрыжак напісаў, што набыць кватэру было жаданнем Міхаіла Жызнеўскага. Раней у Жызнеўскіх была свая кватэра, але сям'я страціла жылплошчу і была вымушаная жыць у здымным памяшканні.

**Кірыла Хілько**

## Абліўся вадой, выклікаў Лукашэнку, атрымаў праблемы

Дзмітрый Дайнэка (на фота ў цэнтры) — дзесяцікласнік сярэдняй школы №3 горада Беразіно, што ў Мінскім вобласці. У канцы жніўня ён вырашыў паўдзельнічаць у сусветнай акцыі Ice Bucket Challenge і абліцца халоднай вадой. Перадаць эстафету ён вырашыў ні многа ні мала — кіраўніку Беларусі, зняў адмысловы ролік і выклаў яго на Ютуб. Хутка пра гэта даведаліся ў школьнай адміністрацыі, у выніку ў хлопца і яго сяброў, якія ўдзельнічалі ў здымках, пачаліся праблемы.



**Ice Bucket Challenge**

Дабрачынная акцыя накіраваная на барацьбу з хваробай Лу Герыга, або бакавым аміятрафічным склерозам. Гэта вельмі рэдкая і невылечная хвароба. Любы ахвотны дапамагчы запісвае відэа, як ён абліваецца ледзяной вадой, і адначасова кідае выклік яшчэ тром людзям. У адказ тыя павінны альбо таксама абліцца, альбо пералічыць грошы ў дабрачынны фонд. Звычайна людзі робяць і тое, і іншае. Улетку гэтага года пасля масавай папулярызацыі акцыі, па дадзеных New York Times, Асацыяцыя ALS атрымала больш за 41 мільёна даляраў ахвяраванняў.

Бацькоў усіх падлеткаў, якія фігуравалі у відэа, выклікалі ў школу. Што там ім сказалі, Дзмітрый не ведае. Але, кажа ён, тых, хто мацюкаўся ў кадры, хацелі паставіць на ўлік у міліцыю. Пакуль гэтае пытанне вырашаецца.

Да таго ж, з-за нецэнзурнай лексікі Дзмітрыя з сябрамі выклікалі яшчэ і ў інспекцыю па справах непаўналетніх. Як кажа хлопец, там з імі проста пагутарылі: распыталі, як і дзе адбывалася здымка. У выніку Дзіма вырашыў выдаліць злашчасны відэаролік.

«Настаўнікі і бацькі сяброў парэкамендавалі гэта зрабіць, каб не мець лішняга клопату», — расказаў Дзмітрый.

Але, кажа ён, ніякага палітычнага падтэксту відэа не мела.

«Мы запісалі яго проста так. Хацелі, каб акцыя набыла большую папулярнасць сярод моладзі. Каб наш выклік быў прыняты і наш прэзідэнт падтрымаў акцыю, то папулярнасць Ice Bucket Challenge пашырылася б», — лічыць хлопец.

**Улад Швядовіч**



**Цытата**

**«Я стаміўся»**

«Я 20 гадоў прапрацаваў прэзідэнтам, што мне яшчэ трэба? Мне трэба думаць, як там у цёплым месцы прыхінуцца, спакойна пасядзець. Я проста стаміўся ад гэтага. Я шукаю недзе кут, каб дзесьці ціхенька сесці і адпачыць», — сказаў Лукашэнка ў інтэрв'ю тэлеканалу «Расія-1».

# Беларусаў ногі кормяць. Украінцаў таксама

Ва Украіне ўсё таннейшае, і жыхары поўдня Беларусі масава закупляюцца на мяжы і за мяжой. Рэпартаж Сяргея Макарэвіча і Сяргея Гудзіліна са Столінскага раёна.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

«У каго тарты? У каго тарты?» — шукае пара беларусаў.

«Нэ знаю, можэ в Ніны. Дэ Ніна?» — адказвае ўкраінка.

«Дзеўкі, чаго булак не напяклі?» — пытаюцца іншыя купцы.

«Буў хтося з булочкамы!» — махае яна ў бок вакзала, адкуль яшчэ цягнецца народ.

Украінцы між сабой дружныя. Яны едуць і ведаюць, хто, што і колькі вязе.

«Ты шо, нэнормальна?» — ушчувае кабета суседку.

Тая дастала шматок свежага сала ў кульку і паклала на сцежку сярод іншага тавару. Адразу падумалася, што праблема ў брудзе на зямлі. І толькі праз хвіліну даходзіць, што мяса ж забаронена правозіць у Беларусь. Але ж вязуць.

«Хлопчыкі, патрымайце пакет! — просіць нас беларуска. — У нас у Лунінцы сала 80 тысяч, мяса абыякое па 100, а ўкраінцы сала свежае прывозяць па 40 тысяч, бачок — па 55 тысяч, мяса — па 60. Гэта ж цудоўна! Каб толькі мяжу не перакрылі! Нам, «багатым беларусам», ёсць тут што ўзяць», — аж свеціцца ад радасці яна.

Кавуны па 5 тысяч за кіло. На іх прадрапана вага. Усе вераць — вагаў тут ніхто не возіць.

«Па чым перац?»

«Чырвоны па 12».

«А гэты?» — жанчына паказвае рукой на зялёны.

«Гэты аддам за 9».

Гарэлка — па 40 тысяч. Але яе так проста не выстаўляюць — трэба пытацца. Ва Украіне гарэлка на нашы грошы цяпер каштуе 28 тысяч, вось і вязуць, колькі змогуць.

### Частка першая: украінцы бягуць

А ўсяму гэтаму папярэднічае вось такая карцінка.

Чуецца гудок і паказваецца дызель. Па раскладзе ён прыбывае ў 10.52. Гадоў 10 таму яго называлі «бобік». Ён быў чырвоны і абшарпаны. Цяперашні — сіні, адрозніваецца ад беларускіх калег формай.

Толькі ён спыніўся — з усіх дзвярэй «пасыпаліся» людзі з клункамі. Маладыя і старыя спрытна саскокваюць на зямлю і бягуць да памежнага пункту пропуску, які месціцца адразу на чыгуначнай станцыі.

Гэтая станцыя, відаць, найважнейшы пункт інфраструктуры рабочага пасёлка Рэчыца ў Столінскім раёне. Тут апошні беларускі прыпынак пасажырскіх цягнікоў. Наступны ўжо ва Украіне — Удрыцк.

Украінцы едуць сюды штодня. Зімой і летам. Рызыкуючы атрымаць штраф альбо адмову на ўезд. Яны прыязджаюць у Беларусь гандляваць. Не на фурах ці бусах, а цягніком. А тавару ў іх — колькі рукі пацягнуць. Цягнецца гэта ўжо не адно дзесяцігоддзе...

Калі ўсе вязуць аднатыпны тавар — важна першым заняць чаргу для надгляду: апошні ў ёй можа вярнуцца назад з таварам. Бо на ўсё пра ўсё ў гасцей Беларусі ёсць дзве гадзіны — праз столькі цягнік адпраўляецца назад ва Украіну. Праз колькі хвілін ужо па адным, па два пасажыры дызеля падцягваюцца да стыхійнага базару каля чыгуначнага перахода станцыі «Гарынь».

### Могуць фотаапарат разбіць

Выходжу на платформу (часткова яна перакрытая памежнікамі). Угледаюся ў мост цераз раку Гарынь. Усутыч падыходзіць малады мужчына.

«Скажы яму, — ківае на Гудзіліна, — каб ён асцеражней. Могуць фотаапарат разбіць. Хай нават не думае тут здымаць».

Маўляў, украінцы баяцца, што за імі сочыць беларуская падатковая, каб аштрафаваць. Ён і сам не хоча трапіць у аб'ектыў. «І КДБ, і ФСБ, — менавіта так кажа ён, — і падатковая спрабавалі разагнаць гэты рынак. Усё марна».

Тавар ляжыць проста ў сумках на зямлі.

Метраў за сорак ад памежнікаў і вакзала ў Гарыні размясціўся і стыхійны рынак. Тут сядзяць беларускія бабулькі, якія прадаюць сваё сала, малако, агуркі, грушы... Сюды прыходзяць гандляваць і ўкраінцы.

На іншым баку чыгуначных шляхоў размясціўся агароджаны, афіцыйны міні-рынак. Там трэба плаціць за месца — 20 тысяч рублёў. Украінцаў туды даходзяць адзінкі.

Заходжу ў крамы побач. Раней украінцы, спрадаўшы сваё, выстройваліся сюды ў чэргі, каб накупіць беларускага. «Больш не купляюць», — кажуць прадавачкі. Грыўня настолькі апусцілася, што ў Беларусі цяпер даражэйшае ўсё. Усё!

Кіруемся на рынак афіцыйны. Але там людзей амаль няма.

«Бульбу цяпер капаюць», — тлумачыць баба. Бабуля чакала ўкраінку, якая прывязе туалетную паперу. Яна выкупляе ў яе оптам, а пасля перапрадае. «Рубля зараблю! Ай, які там заробак? Гэта калі сваё прадаеш, то навар. Абы ўхаце не сядзець. Сам адзін — бы дзікі турак. А няма куды пайсці», — жаліцца яна.

### Частка другая: беларусы бягуць

«...Посмотрите это кино. Будет интересно».

Жанчына вымаўляе чыста парасійску — відаць, не мясцовая. Раніцай прыехала з Лунінца па ўкраінскія прадукты. А нам прапануе паглядзець, як беларусы, якія прыедуць на дызелі з Баранавіч, будуць перасядаць на цягнік да Украіны.

«Паглядзіце, як яны будуць бегчы! Лавіна! Шчаслівыя беларусы!» — з сарказмам кажа яна.

«А вы самі што купляеце тут?» — цікавімся ў новай знаёмай.

«Грушы, агуркі, памідоры. Чай, каву».

Дызель з Баранавіч прыбывае на станцыю Гарынь а 12.17. Як толькі расчыняюцца дзверы, з вагонаў вывальвае натоўп. Калі абагульняць, то гэта вельмі падобна на мас-старт марафонскай дыстанцыі. Да пункту памежнага кантролю — амаль кіламетр. Бягуць усе: прадпрымальнікі з Лунінца і сяляне з навакольных вёсак. Бягуць ва Украіну па тавар.

Бягуць з пустымі тачкамі. Хто сам, хто сем'ямі. «Валя, сумка, сумка ўпала!» — крычыць адна адной... Іх на роварах абганяе кемлівы мужчына. Ва Украіну веласіпед не паедзе, мужык вешае яго на замок да слупа побач з вакзалам.

«Багатыя беларусы» — прыгадваецца іронія лунінецкай жанчыны. А следам за імі няспешна ідуць украінцы. Э, вось і тое, што яны масава вязуць на радзіму з Беларусі. Гэта вялікія мяккія цацкі, кіслотных колераў. Тут, непадалёк у дварах, крамы жлобінскай фабрыкі.

Ля агароджы станцыі мітусяцца жанчыны-мянялы. Мяняюць украінкам беларускія грошы на грыўні. Курс не банкаўскі, але ўсіх задавальнае.

Памежнікі робяць сваю работу па правілах, сваркі з-за чаргі іх асабліва не турбуюць.

Логіка памежнага гандлю простая: хочаш рабіць бізнэс — умей бегаць. Заўтра будзе тое самае. Першымі стартуюць украінцы.

І беларусы з украінцамі не сварацца. І ні слова пра вайну.

# Беларуская бізнэс-эліта правяла рэгату на Мінскім моры

Перамог мільянер Алег Хусаенаў.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

6 верасня на тэрыторыі Рэспубліканскага цэнтра алімпійскага рэзерву па вяслярных відах спорту пад Заслаўем прайшла першая бізнэс-рэгата. Мільянер Аляксандр Машэнскі, які ўзначальвае федэрацыю веславання, вырашыў папулярызаваць гэты від спорту. Калісьці ён сам займаўся веславаннем на байдарках.

Абласныя федэрацыі таксама дасталіся бізнесменам. На Магілёўшчыне кіруе «курыны кароль» Яўген Баскін, на Гродзеншчыне — вытворца панчох Валянцін Байко. У Мінску за веславанне адказвае Алег Хусаенаў (на ніжнім фота). Раней ён кіраваў кампаніяй па продажы аўтамабіляў «Атлант-М», а цяпер узначальвае інвестыцыйную кампанію «Зубр Капітал».

Менавіта Хусаенаў і стаў пераможцам спаборніцтваў. У заездах удзельнічалі пяць пар, якія складаліся з бізнэсмена і былога прафесійнага спартсмена. Партнёрам Хусаенава быў старшы трэнер зборнай Беларусі па акадэмічным веславанні Алег Дудко.

На рэгату сабралася беларуская бізнэс-эліта разам з сем'ямі. Апранутыя ў англійскім стылі мільянеры вялі свецкія размовы і краем вока сачылі за воднымі спаборніцтвамі.

**Ягор Марціновіч**

**падрабязны фотарэпартаж глядзіце на nn.by**

# У Светлагорску звольнілі са школы настаўніцу года

Усю моц беларускай кантрактнай сістэмы найму адчула на сабе выкладчыца гісторыі светлагорскай сярэдняй школы №10 Алена Маслюкова, якую ад звальнення не выратавала нават ганаровае званне «Настаўніка года».

«Я не збіралася сыходзіць са школы, але 2 ліпеня — за два месяцы да звальнення —сакратарка ўручыла мне паведамленне, што 2 верасня ў мяне скончваецца кантракт і працягнуты ён не будзе. Прычыны гэтага мне не патлумачылі», — кажа сама Маслюкова.

### Пяць гадоў у школе

У 10-ю школу Алена Маслюкова прыйшла працаваць па запрашэнні дырэктаркі Людмілы Драпезы пяць гадоў таму. Відаць, прафесійныя якасці Маслюковай тая ацэньвала высока, бо дырэктарку не спынілі нават «непажаданыя» погляды настаўніцы: яна з'яўляецца сябрам БНФ і не хавае свайго стаўлення да палітычнай сітуацыі ў Беларусі. Да таго ж Маслюкова выкладала ў светлагорскім філіяле Коласаўскага ліцэя да самага яго закрыцця, а потым давучвала класы ліцэістаў у светлагорскай школе № 1.

«Пры прыёме на працу Драпеза закранула пытанне маіх перакананняў, аднак я запэўніла дырэктарку, што палітыка застаецца за сценамі школы», — тлумачыць Маслюкова.

### Найлепшы настаўнік

Аб'ектыўных прычын звальняць Маслюкову ў кіраўніцтва 10-й школы не было. Маслюкова за 32 гады педагагічнага стажу не мела спагнанняў. Наадварот, Маслюкова запомнілася сваёй актыўнай дзейнасцю. Яна мела вышэйшую настаўніцкую катэгорыю, а апошнюю пераатэстацыю прайшла ў пачатку 2014-га. Пад яе кіраўніцтвам дзеці перамагалі на алімпіядах і навукова-практычных канферэнцыях. Сама Маслюкова ўдзельнічала ў краязнаўчых канферэнцыях, была членам інавацыйнай групы ў школе. А ў 2013 годзе Алена Маслюкова перамагла ў конкурсе «Настаўнік года» і стала найлепшай выкладчыцай Светлагорскага раёна.

### Пачалося з Украіны

«Ведаеце, усё на ўзроўні чутак. Нехта праз кагосьці камусьці сказаў, што дырэктарку выклікалі ў аддзел ідэалогіі, казалі, нібыта я выказваю дэструктыўныя думкі. Я спытала, што ў судовай зале мне могуць прад'явіць дэструктыўнага? Вядома, нічога.

Мне падаецца, усё пачалося з падзей ва Украіне. Бо аднойчы я заступілася за маладую калегугісторыка, якую прымушалі падпісвацца на дзяржаўную прэсу, і сказала, што не існуе такога закона, які прымушае гэта рабіць. Тады дырэктарка перакінулася на мяне. Яна мне шмат чаго раіла зрабіць, напрыклад, пайсці ў выканкам і выказаць пазіцыю там. А потым выдала: «Такія людзі, як вы, зрабілі Майдан ва Украіне». На гэта я адказала, што Майдан ва Украіне адбыўся праз такіх чыноўнікаў, як яна».



### «Хацела б дапрацаваць»

Даведаўшыся аб непрацягненні кантракта з Маслюковай, бацькі яе вучняў хадзілі да дырэктаркі з просьбай вярнуць настаўніцу ў школу. На жаль, падняты шум наўрад дапаможа вярнуць Маслюкову на працу. Старшыня аддзела адукацыі, спорту і турызму Светлагорскага райвыканкама Людміла Вялічка кажа, што райвыканкам гэтай справай займацца не будзе. Звязацца з Людмілай Драпезай не ўдалося.

Спадарыня Алена шкадуе, што не змагла давучыць свае два выпускныя класы: «У мяне ёсць маральныя абавязкі перад вучнямі. Я спадзявалася, што выпушчу іх, сказала, што разам з імі пайду на пенсію. Я, дарэчы, гэта сказала дырэктарцы, на што яна мне запярэчыла: маўляў, вы такая актыўная, якая пенсія!»

Маслюкова таксама кажа, што пасля звальнення планавала працягнуць працаваць у адукацыі, але перадумала: «Спачатку я думала, што пайду ў іншую школу, аднак на прыёмцы школы 5 жніўня мне расказалі, што ёсць неафіцыйны загад — Маслюкову ва ўстановы адукацыі горада не браць».

**Кірыла Хілько**

# Футбаліст Адамец памёр у 30 гадоў

«Нават абаронцаў піхаў так, **каб не пакрыўдзіць**».

7 верасня футбольная каманда «Хваля» з Пінска страціла аднаго са сваіх гульцоў. І гэта быў не пераход у іншы клуб ці заканчэнне кар'еры. Раніцай гэтага дня Мікалай Адамец, якому было ўсяго 30 гадоў, памёр у лунінецкім шпіталі. Дыягназ — кровазліццё ў мозг. Чаму? Што здарылася?

У гісторыі былі зарэгістраваныя выпадкі, калі футбалісты паміралі ад кровазліцця ў мозг, але амаль усе яны былі звязаныя з фізічнымі траўмамі гульцоў — сутыкненнямі з праціўнікамі, ударамі, падзеннямі. У гэтай жа сітуацыі нічога не прадказвала бяды.

«Пасля таго матчу ў Колі не было ніякіх праблем. Спецыяльна прагледзелі відэа гульні. У Адамца не было нейкіх сутыкненняў, удараў па галаве, яшчэ чагосьці...» — прыводзіць словы старэйшага трэнера каманды Вадзіма Бяленкі by.tribuna.com

1 верасня Адамец адпрасіўся з трэніроўкі, бо яго дзіцё ішло ў школу: «Але жонка сказала, што ўжо на лінейцы Коля адчуваў галаўны боль». Па словах футбаліста «Хвалі» Дзмітрыя Хаміцэвіча, у аўторак раніцай каманда працавала ў трэнажорцы. Мікалай прыехаў на трэніроўку і сказаў, што захварэў: паднялася тэмпература і ломіць косці. Але занятакі ў зале ўсё ж адпрацаваў. Пасля адпрасіўся ў трэнера і паехаў дадому. І там ужо адбылася трагедыя: ён страціў прытомнасць, яго забрала хуткая.



У шпіталі быў пастаўлены дыягназ — кровазліццё ў мозг. Некалькі дзён Мікалай праляжаў без прытомнасці. На той момант хірургічнае ўмяшальніцтва было проста немагчымым. Каб дапамагчы Мікалаю, былі запрошаныя дактары з Мінска і Брэста, але нават агульнымі намаганнямі яны нічога не змаглі зрабіць. Раніцай 7 верасня Мікалая Адамца не стала.

«У яго засталася жонка Наташа і васьмігадовая дачка. У жонкі 31 жніўня быў дзень нараджэння, а 1 верасня ён першы раз быў на школьнай лінейцы ў дачкі — павёў яе ў трэці клас. А пасля ўсё — бяда», — распавёў Дзмітрый Хаміцэвіч, які доўгі час гуляў разам з Адамцом у складзе розных каманд.

Як расказаў Дзмітрый, пахавалі Мікалая Адамца ў панядзелак, 8 верасня, у Мікашэвічах: «Як яго праводзілі — гэта не перадаць: усе галасілі. На пахаванні былі футбалісты з усёй рэспублікі: са «Славіі», «Хвалі», «Іслачы», «Ліды», «Віцебска», быў прадстаўнік ад БАТЭ — Федаровіч, — людзей быў проста свет. Коля Януш з «Шахцёра» ўвогуле там сарваўся так, што ўсе збялелі — яны ж абодва з Мікашэвіч, сябры былі блізкія».

«Ён быў прыстойным, добрым хлопцам, невыбухным, — расказвае Міхаіл Марціновіч, які таксама, як і Адамец, выхоўваўся ў мазырскай «Славіі», а цяпер з'яўляецца старэйшым трэнерам палескага клуба. — Ніякіх забабонаў не меў. Спакойны, ураўнаважаны, добры сем'янін».

Дзмітрый Хаміцэвіч можа сказаць толькі добрае пра Мікалая: «Ён нават, калі ў браме стаяў, абаронцаў піхаў так, каб нікога не пакрыўдзіць. Вось прыклад. У гасцініцы ён жыў у адным нумары з Андрэем Дручыкам. Дык Андрэй расказваў, калі ён прачынаўся кожную раніцу, то ў яго на тумбачцы стаяў кубак гарбаты, згатаванай Адамцом. Гэта быў вельмі моцны чалавек з моцнымі чалавечымі якасцямі».

**Зміцер Міцкевіч**

Эксперымент



# Пошук неабыякавых беларусаў скончыўся паспяхова

Эксперымент пад назвай «Чалавеку кепска!» першымі правялі хлопцы з Расіі і Амерыкі. Сутнасць вельмі простая — у цэнтры горада малады чалавек рабіў выгляд, нібыта яму стала дрэнна. У ЗША да «сімулянта» падыходзілі літаральна праз хвіліну. Ратаваць расійскага эксперыментатара мясцовыя жыхары зусім не спяшаліся.

Такое ж відэа хутка знялі і ўкраінцы ў Львове. Там да хлопца падыходзілі праз некалькі хвілін.

Супрацоўнікі відэааддзела «НН» Мікіта Недаверкаў і Ірына Арахоўская вырашылі даведацца, як у такой сітуацыі будуць паводзіць сябе беларусы, і паўтарылі эксперымент у Мінску. Прычым месцы адмыслова абіраліся такія, дзе людзей хапае, але яны спяшаюцца па сваіх справах. Мікіту «рабілася кепска» каля Філармоніі, ЦУМа, побач з галоўным корпусам БДУ і нават у вагоне метро.

Але дзе б ён ні хапаўся за грудзі, доўга чакаць дапамогі яму не даводзілася. Праз адну-пяць хвілін знаходзіўся нехта, хто цікавіўся ў хлопца, што здарылася. Бывала, што неабыякавыя грамадзяне звярталі на яго ўвагу ўжо праз некалькі секунд.

«Больш падыходзіла моладзь, што здзівіла, — кажа Мікіта. — Але і людзі ва ўзросце не абыходзілі мяне бокам. У асноўным прапаноўвалі выклікаць «хуткую», але некаторыя гатовыя былі даць лекі, напрыклад, валідол».

**Уладзіслаў Швядовіч**

Незвычайную гісторыю **бязмежнага даверу і чалавечай подласці** расказала тэлевядучая Валярына Кустава.

# Як малады эмігрант падманваў беларусаў

Юрася С. ведаюць многія беларусы асабіста і віртуальна. У Мінску ён быў актывістам «Моладзі БНФ», сядзеў на сутках на Акрэсціна. У хлопца выдатныя здольнасці да замежных моваў. Некалькі гадоў таму ён з’ехаў у эміграцыю ў Швецыю. Там Юрась не згубіўся, застаўся блізкім да палітыкі. У ягоным прафайле напісана, што працаваў у офісе шведскай кансерватыўнай партыі Мадэраты, якая цяпер пры ўладзе ў гэтай скандынаўскай краіне, памочнікам дэпутата. Не так даўно Юрась змяніў месца жыхарства на Лондан.

Там і пачаліся прыгоды. Паэтка Валярына Кустава кажа, што напрыканцы чэрвеня Юрась звярнуўся да яе з просьбай. Прасіў ён зняць гатэль, бо трапіў у нялёгкую жыццёвую сітуацыю. Валярына ведала хлопца толькі са станоўчага боку. Калі яе саму абрабавалі ў Стакгольме, то менавіта Юрась прыйшоў на дапамогу.

Аднак проста зняць гатэль аказалася мала. Малады чалавек казаў, што яго не пускаюць у гасцініцу, браня зрываецца і г.д. І Валярына працягвала здымаць гатэлі, хоць грошы з карткі працягвалі «таяць».



«Далей, калі мае грошы скончыліся ў нуль, ён папрасіў, каб я пазычыла ў сяброў — і забараніла зноў». Спачатку спн. Кустава адмовілася, але ён угаварыў, і ў выніку яна пазычыла яшчэ грошай на патрэбу Юрася. Але гэтага аказалася мала! Хлопец папрасіў пашпартныя дадзеныя Валярыны і пін-код ад карткі, маўляў, без гэтага яго не пускаюць у гатэлі. Страты паэткі Валярыны склалі амаль $1500.

У выніку С. папрасіў знайсці чалавека ў Лондане, які мог бы дапамагчы яму «ў такой нялёгкай жыццёвай сітуацыі». Валярына параіла медыяэксперта Аляксея Лявончыка, які пазычыў Юрасю грошай, а таксама пусціў хлопца да сябе ў хату пажыць.

Калі прыйшоў час аддаваць пазыкі, то хлопец проста знік, не адказваючы на тэлефанаванні і паведамленні ў сацыяльных сетках. Аляксей Лявончык кажа, што ў яго спадар С. скраў з дома грошай на агульную суму прыкладна $3000. Выграб нават дробныя украінскія грыўні — усё, што змог знайсці.

«Ён прыйшоў, прарыдаўся. Нічога не адмаўляў. Сказаў, калі ды колькі скраў. Я прымусіў яго сказаць дакладна, калі ён аддасць грошы Валярыне і мне. Ён сам назваў даты». Але ў гэтыя дні Юрась нічога не аддаў. «Стала відавочна, што Юрась нас дынаміць, хлусіць, не збіраецца вяртаць грошы», — кажа Лявончык.

Пасля таго, як гісторыя стала публічнай, хлопец ізноў з’явіўся на сувязі. Ён паабяцаў, што цягам дня аддасць усе пазыкі, толькі ўмаляў выдаліць допіс з апісаннем гэтай гісторыі у Фэйсбуку. Аляксей і Валярына зноў даверыліся, але марна, грошай яны так і не пабачылі. Дзе цяпер сам Юрась, ніхто не ведае. Магчыма, ён вярнуўся назад з Лондана ў Стакгольм. Ахвяры маюць намер звярнуцца ў паліцыю. Праўда, пазыкі паабяцала аддаць адна добрая знаёмая Юрася. У такім выпадку справа скончыцца палюбоўна.

**Зміцер Панкавец**

## Вышук







**Развялі на блоках**

Сталічная фірма праз інтэрнэт прапаноўвала сілікатныя блокі па цэнах, ніжэйшых за рынкавыя. Але прасілі стапрацэнтную перадаплату. Кліенты прыязджалі ў офіс на вул. Шчарбакова, 6, з імі заключалася дамова і выдаваўся чэк. Але блокі не даязджалі да будоўляў. Ужо вядома пра 10 ашуканых. Калі вы пацярпелі ад супрацоўнікаў фірмы (на фота), звяртайцеся ў Партызанскае РУУС Мінска на (017) 230-44-40.

# У смерці дзіцяці абвінавацілі кіроўцу

Ён ехаў па двары **не 20 км/г, а 24 км/г.**

3-гадовая дзяўчынка загінула ў двары на вуліцы Розы Люксембург 17 чэрвеня. Маладыя бацькі пакінулі дзяцей у бабулі з дзядулем. Дзяўчынка была з дзедам у машыне, калі раптам кінулася праз дарогу да пясочніцы — туды ж пабегла старэйшая сястра. Адна дзяўчынка паспела перабегчы, а другая трапіла пад машыну. Дзіця памерла ў бальніцы.

«Аналіз сабраных доказаў паказаў, што прычынай ДТЗ была няўважлівасць і неабачлівасць кіроўцы да навакольнай дарожнай абстаноўкі і яе змянення, — адзначылі ў Следчым камітэце. — Нягледзячы на наяўнасць на праезнай частцы дваровай тэрыторыі прыпаркаваных легкавых аўто, якія не дазвалялі кантраляваць дарожную абстаноўку, у парушэнне патрабаванняў ПДР, якія забараняюць рух у жылой зоне на хуткасці звыш 20 км/г, ва ўмовах абмежаванага агляду кіроўца ехаў на хуткасці 24 км/г».

36-гадовы кіроўца на Ford Mondeo, які і збіў дзяўчынку, жыве ў гэтым жа двары. Цяпер яму пагражае рэальны тэрмін — да пяці гадоў калоніі.

**Кастусь Матушыч**



TUT.BY

# Масавае атручэнне ў рэстаране Карэліч

Ва ўсім **вінавацяць кухара.**

Дзесяць чалавек звярнуліся ў бальніцу яшчэ 12 і 13 ліпеня. Скардзіліся на кепскае самаадчуванне. Ва ўсіх выявілі сальманэлёз. Аказалася, яны ўсе наведвалі адзін і той жа рэстаран. Між іншым, з сальманэлёзам выявілі і дваіх супрацоўнікаў установы харчавання.

Напярэдадні атручэння спецыялісты раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі ў рэстаране выявілі шэраг сур’ёзных парушэнняў, у тым ліку пры працэсе гатоўкі. Адміністрацыя своечасова не ўзялася за іх ліквідацыю, што і прывяло да масавага атручэння. Высветлілася, што адміністрацыя дазваляла прыносіць свае прадукты на кухню і гатаваць у антысанітарыі.

Крымінальная справа заведзена на старшага кухара рэстарана за парушэнне санітарна-эпідэміялагічных правіл. Пакаранне — ад штрафу да трох гадоў калоніі. Следчыя шукаюць магчымых ахвяр з іншых рэгіёнаў, якія наведвалі гэты рэстаран. І высвятляюць, якія канкрэтна прадукты ці стравы паслужылі прычынай атручэння.

**Сяргей Макарэвіч**

## Сцісла

**Грузчыка забілі, бо дэмпінгаваў**

Двое жыхароў Слуцка, 1980 і 1984 г.н., абвінавачваюцца ў забойстве. Мужчыны працавалі нелегальна на рынку ў Ждановічах. 4 чэрвеня яны збілі старэйшага калегу, бо той браў менш грошай за працу: не 250 тысяч, а толькі 150 — дэмпінгаваў. Пасля бойкі грузчык памёр ад разрыву прамой кішкі.

**Асудзілі намесніка мэра**

Былы першы намеснік мэра Івацэвічаў Васіль Радкавец асуджаны на 4 гады калоніі без канфіскацыі маёмасці і з адтэрміноўкай на 3 гады. Крымінальную справу за перавышэнне службовых паўнамоцтваў завялі ў красавіку 2013-га па матэрыялах праверкі ўпраўлення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі. Чыноўнік нанёс шкоду шэрагу прадпрыемстваў раёна на 5,7 мільёна рублёў. Віну прызнаў, шкоду кампенсаваў.

**Патрабуюць экстрадыцыі**

Генпракуратура Беларусі накіравала ў Расію запыт аб выдачы Сяргея Багдашова. Беларус яшчэ ў маі 2009-га збег з-пад варты ў судзе Жодзіна, скраўшы пры гэтым у канваіра пісталет. Багдашоў выехаў у Расію, дзе ледзь не быў затрыманы за крадзяжы — збег пры затрыманні. У ліпені 2014-га яго ўсё ж здолелі арыштаваць у Падмаскоўі. У Беларусі яго павінны судзіць за крадзяжы, у тым ліку зброі, і ўцёкі.

**Затрыманне ў медкаледжы**

На хабары папаўся намеснік дырэктара Мінскага медыцынскага каледжа, які курыраваў фінансава-гаспадарчую дзейнасць. Яго затрымалі ў кабінеце пры атрыманні 20 мільёнаў рублёў ад індывідуальнага прадпрымальніка. За такую ўзнагароду ІП павінен быў стаць пастаўшчыком камп’ютарнай тэхнікі ў каледж.

**Баксёр збіў сваю дзяўчыну**

У Светлагорску 19-гадовы баксёр убачыў, як у дом да яго дзяўчыны заходзіць іншы малады чалавек. У прыступе рэўнасці ён уварваўся ў кватэру, жорстка збіў дзяўчыну, а потым, пагражаючы нажом, прымусіў маладых людзей стаць на калені. Аказалася ж, што прычын для рэўнасці не было: малады чалавек, які выклікаў падазрэнні, прыйшоў да дзяўчыны, каб дапамагчы ўсталяваць праграмы на камп’ютар. Заведзеная крымінальная справа.

**КМ**

# Астраномы зафіксавалі вельмі рэдкую з'яву: выбух белага карліка

Навукоўцам з Еўрапейскага касмічнага агенцтва ўдалося пабачыць і адлюстраваць адну з самых рэдкіх высокаэнергетычных з'яваў сусвету. Астраномы атрымалі доказы, што «мёртвыя планеты», вядомыя як белыя карлікі, пры пэўным збегу абставін могуць перазапускацца, загарацца зноў і выбухаць, быццам звышновыя.

Варта адзначыць, што выбухі звышновых зорак класа Lа — з'ява даволі распаўсюджаная, навукоўцы фіксуюць некалькі такіх на год. Выбухі белых карлікаў — рэч рэдкая, якая фіксуецца раз на некалькі тысяч гадоў.

Белыя карлікі — зоркі, пазбаўленыя ўласных крыніц тэрмаядзернай энергіі. Белыя карлікі ўяўляюць сабой кампактныя зоркі з масамі, параўнальнымі з масай Сонца, але з радыусам у 100 разоў меншым за сонечны. Белыя карлікі складаюць 3—10% зорак Галактыкі.



Раней лічылася: калі ў зорак, супастаўных з Сонцам, скончаецца паліва для падтрымкі рэакцыі, іх ядры сціскаюцца да памераў Зямлі і марудна астываюць. Доўгі час нават лічылася, што белыя карлікі інертныя і зусім не могуць выбухаць.

Ад студзеня астраномы сачылі за выбухам, як яны лічылі, звышновай зоркі класа Lа ў галактыцы M82, якая знаходзіцца ад Зямлі на адлегласці 11,5 мільёны светлавых гадоў. У гэтым выбуху не было б нічога незвычайнага, калі б не ўнікальны спектр гамавыпраменьванняў, больш характэрны для белых карлікаў.

Навукоўцы прыйшлі да высновы, што ў рэдкіх выпадках белыя карлікі могуць атрымліваць матэрыю ад размешчанай непадалёк зоркі. З часам маса карліка пераўзыходзіць дазволеную мяжу ў 1,44 масы Сонца, вядомую як мяжа Чандэрсекара. Пасля гэтага астылая зорка мае магчымасць ярка завяршыць сваё існаванне ў тэрмаядзерным выбуху.

**Лявон Максюта**

## Легендарная тэнісістка Наўрацілава жэніцца з былой міс СССР



Марціна Наўрацілава (злева) і Юлія Лемігава.

57-гадовая чэшка Марціна Наўрацілава зрабіла прапанову ажаніцца сваёй сяброўцы расіянцы Юліі Лемігавай.

Гэта адбылося падчас Адкрытага чэмпіянату ЗША пасля паўфіналу ў мужчынскім адзіночным разрадзе. «Я ўсё чакала патрэбнага моманту, каб папрасіць Юлію ажаніцца. Я падумала, што гэта будзе правільным месцам, каб задаць гэтае пытанне, і дзякуй Богу я пачула ў адказ «так», — сказала Наўрацілава.

Марціна Наўрацілава — пераможца 167 тэнісных турніраў у адзіночным заліку. Гэта найбольшы паказчык за ўсю гісторыю тэніса. Пасля сканчэння кар'еры яна жыве ў ЗША.

Юлія Лемігава — віцэ-міс СССР (1991). Некалькі гадоў таму Наўрацілава прызнавалася, што праходзіць курс лячэння ад цяжкай формы раку малочнай залозы.

**Сямён Цыбульскі**

## Маладзечанскі клуб прапануе гадавы абанемент за відэа, на якім ты «жарышь» яе ў прыбіральні

Маладзечанскі начны клуб з «арыгінальнай» назвай «Клаб» праводзіць даволі незвычайную і супярэчлівую PR-акцыю.

Нядаўна ў суполцы клуба «Укантакце» з'явілася паведамленне (пунктуацыя арыгінала захавана): «Гэта не жарт. Прыйшлі на ...@... ананімна фота ці відэа як ты «смажыш» яе ў WC за найлепшае фота ці відэа Klab дорыць табе бясплатны ўваход цягам года».

Пасля з'яўлення інфармацыі аб акцыі «Клаба» ў СМІ з суполкі ўстановы прыбралі абвестку.

«НН» звязалася з Наталляй Філістовіч, адказнай за сувязі з грамадскасцю клуба.

Наталля патлумачыла, што паведамленне аб акцыі сапраўды было, аднак супрацоўнікі клуба разлічвалі на скандальны піяр праз саму абвестку, а не на тое, што хтосьці сапраўды дашле нейкія фотаздымкі ці відэаролікі. «У паведамленні не ўказана, што гэта мусяць быць хлопец ці дзяўчына».

Праўда, такі піяр выклікаў вялікае абурэнне з боку інтэрнэт-карыстальнікаў.

**Яўген Крэйда**




**Камертон Сяргея Ваганава**

# Але ж хусткі ё…

Для ўсіх, хто цікавіцца трэндамі, цудоўным чынам сышліся на мінулым тыдні тры навіны.

Першая паведамляла пра тое, што наша любая краіна ў сусветным спаборніцтве, хто колькі віп'е, дасягнула-такі недасяжнай вышыні — 17 з паловай літраў чыстага спірту на чалавека ў год. Вельмі важкі ўнёсак у сярэднія 6,2 літра на ўсё чалавецтва.

Не ведаю, як вылічваецца колькасць чыстага спірту з так званых «чарніл», але, дзякуючы нястомнаму клопату ўлады пра спатоленне смагі, вытворчасць апошніх толькі ўзрасце. І гэта другая навіна.

Трэцяя навіна проста ашаламляе сваёй навізной: МУС прапануе «ўвесці забарону на ўжыванне алкагольных і слабаалкагольных напояў для тых, каму няма 18 гадоў. Плануецца ўвесці адміністратыўную адказнасць бацькоў за такое парушэнне»...

За сваё слабаалкагольнае жыццё я ўжо стаміўся ад падліку падобных стымулюючых і забарончых ініцыятываў. Апошнім разам, гадоў мо пяць таму, адзначылася Генеральная пракуратура — прапанавала ўвогуле спыніць вытворчасць «чарніл», а замест іх цісніць сокі.

Але куды там МУС, Генпракуратуры ды ўсяму беларускаму ўраду да ЦК КПСС і яго памятнай «гарбачоўскай» ініцыятывы!

Народ, помніцца, адазваўся ўсеагульным ухваленнем, пра што ахвотна расказвалі на старонках газет, з трыбун шматлікіх сходаў і з нудных тэлевізійных экранаў. Але мне больш за іншае запомнілася, як адгукнуліся таварышы-алкаголікі з перадавога ва ўсіх адносінах Светлагорскага ЛПП. Яны застрайкавалі. То бок цалкам адмовіліся ад прымання лекаў і чорнай працы, па-навуковаму, працатэрапіі.

Гэта быў, мусіць, першы і адзіны па-свойму страйк, калі людзі патрабавалі не таго, з чым не могуць жыць, а таго, з чым жыць не ўмеюць. То бок свабоды і справядлівасці, адсутнасць якіх выяўлялася, па іх меркаванні, у турэмным рэжыме, дрэнным, з-за крадзяжу персаналам прадуктаў, харчаванні і псеўдалячэнні — з-за таго ж крадзяжу дарагіх лекаў.

## Таварышы-алкаголікі з перадавога Светлагорскага ЛПП застрайкавалі »

Не буду стамляць чытача апісаннем тых сустрэч, размоваў і шумнага сходу, на якім высокія міліцэйскія чыны, што былі накіраваны ў тое злашчаснае ЛПП па заданні ЦК КПБ, пераконвалі хворых на алкагалізм людзей, як нядобра страйкаваць і, тым больш, піць.

Камандзіроўка тая скончылася... Правільна, сытнай вячэрай і вясёлай п'янкай, вось толькі каньяк начальнік ЛПП і галоўурач налівалі з імбрычка...

Каньяк з імбрычка... Да «чарніла» ні вялікае, ні маленькае начальства не апускалася.

За «чарніла» засмучалася цётка Гэля з вёскі Малышкі, куды па тым часе мне выпадала шматкроць наязджаць. Аднойчы якраз праз тыдзень пасля выбараў першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Знайшоў я Гэлю ў напаўцёмнай кухні, яна сядзела за выскрабеным да бляску сталом. У куце, на скрыўленай лаўцы, грувасціліся навалам мо з дзясятак боханаў чорнага хлеба...

«А ты Лукашэнку бачыў? Ну, які ён?» — «А то сама не бачыла...» — «Ды дзе там... Часу няма... А праўда, што хлеб аж у тры разы даражэйшы стане? І «чарніла» падаражэе?»

Так, слова за слова, высветлілася: тэлевізар, што завешаны прыгожа вышытым ручніком, цётка Гэля даўно не глядзіць, перайшла, так бы мовіць, на энергазберагальную тэхналогію; Лукашэнку ані ў вочы, ані здалёк не бачыла. Але галасавала за яго, бо ўсе гаварылі, што ён абяцае добрае жыццё. «Як пры Брэжневу» — рэзюміравала цётка Гэля. І, падумаўшы, дадала: «Ці як у Польшчы»...

З Польшчы, куды яна ездзіла да сястры, цётка Гэля прывезла хусткі. «А якія ж прыгожыя! — прыжмурыла вочы і адчыніла куфар. — Глядзі!»

...Ну, навошта Гэлі патрэбныя былі ў велізарных колькасцях «чарніла» і хлеб, тлумачыць і сёння не трэба.

Уся веліч дзяржавы ўвасаблялася для яе ў магчымасці адкарміць хлебам жывёліну і расплаціцца «чарнілам» за ўзараныя соткі ды іншы набор паслуг, без каторых тагачаснае вясковае жыццё, самотнае і жаночае асабліва, ураз магло скалынуцца. Жыццё, пра якое, калі пытаўся, Гэля гаварыла: «Гаўнянае. Але ж хусткі ё...»

Не ведаю, колькі хустак засталося ў Гэлі за дваццаць гадоў «пры Лукашэнку» ды і ці здараюцца сёння страйкі ў ЛПП. Але які-ніякі жыццёвы досвед падказвае, што, як толькі справы ў дзяржаве зусім пагаршаюцца, адразу абвяшчаецца барацьба з «алкагалізацыяй насельніцтва». Гэткі ілюзіён: ці то ў выглядзе «сокаў» замест «чарніл», ці то розных там Дзён цвярозасці, ці то забароны бацькам спойваць малалетак...

Пра сусветна вядомы вынік гэтай барацьбы чытай у навіне № 1.

**P.S.** Палітолагі, аналітыкі ды іншыя настрадамусы да сёння гадаюць, чаму адна вялікая дыктатура пад назвай СССР развалілася на дзясятак маленькіх і што будзе, калі яны праз пуцінскі «мірны план» ізноў зліюцца, па Дастаеўскім, «в припадке общежития».

Не ведаю, ці зліюцца, але пра тое, што сап'юцца, у мяне асабіста здагадка маецца. Бо калі асобныя людзі співаюцца па розных прычынах, то народы — ад немагчымасці годна жыць.

*kamerton_41@mail.ru*

# Птушкі Бацькаўшчыны і мода

Дызайнерка і архітэктар Аляксандра Баярына стварыла ўласны праект — **серыю паралеляў** вобразаў фэшн-індустрыі з беларускімі птушкамі.

Асноўная мэта праекта — паказаць, што неверагодна разнастайнае і яскравае адзенне магло нарадзіцца і ў Беларусі, бо ў нашай прыродзе мы маем усе неабходныя падказкі.

Аляксандра лічыць, што толькі няўважлівасць і ўсвядомленае жаданне адчуваць сябе ў хвасце сусветных творчых працэсаў перашкаджае нам чэрпаць натхненне ў роднай прыродзе.

Няправільна думаць, што наша толькі тое, чаго няма ў іншых. Наша — гэта тое, чым тут жывём, на што тут глядзім і чым тут натхняемся. А калі ў кагосьці ёсць нешта падобнае, дык і хаты драўляныя ў тых жа геаграфічных шыротах падобныя. Падабенства не адмяняе каштоўнасці свайго.

Для праекта абраная вопратка з калекцый сусветна вядомых і мегапапулярных брэндаў: Issey Miyake, Etro, Vera Wang, Ralph Lauren, Missoni, Dsquared і іншых.

**Вольга Гарапучык**





**Бусел — адзін з нацыянальных сімвалаў Беларусі. Адпаведна, такі чорна-бела-чырвоны камплект мусіць быць адным з улюбёных, родных беларускіх стыляў вопраткі. Жыць яскрава, смела, прыкметна, жыць так, каб сонечнае святло мружылася ад твайго з'яўлення на вуліцы! І адначасова жыць так, каб быць бліжэй да роднай прыроды. Абярыце жыццё ў стылі «Бусел»!**







**Чапля малая белая — рэдкі залётны від, але ж залятае, таму можна смела далучаць лёгкі, падобны на паветра белы колер да спісу родных уласцівасцяў моды.**







**Наш добры знаёмы шэры журавель натхняе на абаяльныя, мяккія вобразы. Апранацца «пад жураўля» — сучасна, модна і адначасова традыцыйна, бо блізка да роднай прыроды.**







**Гарадскі стыль месцічаў маглі б дыктаваць верабей дамавы і верабей палявы.**









**Злева — арол стэпавы, арол-вужаед і арлец вялікі, справа — спадары-сэрцаеды ў касцюмах ад Ralph Lauren.**









**Пліска жоўтагаловая. Упершыню на Бацькаўшчыне выяўлена ў 1982 годзе, пасля чаго да сярэдзіны 1990-х гадоў распаўсюдзілася па ўсёй тэрыторыі краіны. Вытанчаная пліска здольная натхніць і на вячэрнія сукенкі, і на штодзённую вопратку, і на хатнія тэпцікі.**







**Беларускі чорны ў фэшн-індустрыі мог абраць інспірацыяй крумкача і грака.**

# Пасля пратэстаў рабочых заробкі на «Граніце» паднялі да 20 мільёнаў

«Шаноўная Рэдакцыя! Калісьці вы пісалі пра рабочага лідара з Мікашэвіч, з «Граніта». Ён арганізаваў рабочых на абарону сваіх правоў, і яго папёрлі за гэта з завода. Я яшчэ падумаў: вось, наш Валенса. Тая самая гісторыя. Што з ім? Што ён робіць? Як склалася ягонае жыццё?» — спытаўся ў нас чытач Іван Ламаноўскі з Мінска.

У адной з паездак мы заехалі да Алега Стахаевіча — шафёра з «Граніта».

«Нас «абрубалі», звальнялі — людзей станавілася менш, але вынік гэта дало. Яны вымушаны былі падняць заробак, — расказвае Стахаевіч. — А ўжо з лістапада 2012 па 15—17 мільёнаў атрымлівалі, пра што нават абвясцілі на БТ».

— Колькі ж цяпер зарабляе кіроўца БелаАЗа?

— І па 20 мільёнаў атрымлівалі, і больш, і менш — плата здзельная. За 200 рэйсаў (гэта не так і шмат) можна атрымаць 12,5 мільёна.

— Колькі чалавек у выніку пратэстаў звольнілі з «Граніта»?

— Ускосна звольнілі дзвюх жанчын, каб так паўплываць на іх мужоў-пратэстоўцаў, яшчэ 6 рабочых непасрэдна за ўдзел. Увесь раённы КДБ тут працаваў — распрацоўвалі нас. А як паказвае гісторыя з нашымі звальненнямі, судамі (ні адзін пазоў не быў задаволены), знайшліся б тысячы прычын адмовіць нам у рэгістрацыі.

— І назад нікога не ўзялі?

— Не. Спрабавалі ўладкавацца Мікалай Карышаў і Леанід Дубаносаў. Коля спрабаваў праз біржу працы: на «Граніце» было шмат вакансій па яго спецыяльнасці. Але яму адмовілі. Лёня таксама ад цэнтра занятасці туды паехаў — узяў накіраванне. Але адмовілі і яму. Я не хадзіў. Дарога ў Лунінецкім раёне чалавеку з прозвішчам Стахаевіч паўсюль закрыта: ні малодшы брат уладкавацца не можа, ні яго жонка. Але свет не замыкаецца ў межах раёна.

Мне іншага шкада! Усё, чаго мы дасягнулі тады, цяпер страчана. А дасягнулі павышэння заробкаў у пяць разоў і больш, з'явілася кампенсацыя за харчаванне, змена ў святочныя дні пачала аплачвацца так, як нідзе да гэтага ў Беларусі — у чатырохразовым памеры (на «Беларуськаліі» ў трохразовым атрымлівалі), у 5 і больш разоў павялічылася прэмія за эканомію матэрыялаў і паліва. Цяпер засталіся толькі болыш-менш добры заробак, засталася надбаўка за харчаванне. Рабочыя дазволілі нават забраць у сябе паўгадзіны з працоўнай змены.

— Афіцыйны прафсаюз падчас пратэстаў неяк праявіў сябе?

— Яны ўзялі бок дэзынфармацыі.

— І якія высновы ты для сябе зрабіў?

— Каб дасягнуць максімуму, рабочыя павінны дзейнічаць дружна, у поўным адзінстве. Тады можна ў разы падняць і заробкі, і бонусы.

**Гутарыў Сяргей Макарэвіч, Мікашэвічы—Мінск**



**Алег Стахаевіч знайшоў работу за межамі Лунінецкага раёна.**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## «Маскоўскі дворык» усабачыць хочуць

Заўважыў на дошцы аб'яваў пры пад'ездзе (Мінск, праспект Незалежнасці, 48а) абвестку пра пачатак працаў па стварэнні ў маім і суседніх дварох нейкага «Московского дворика». Пакідаючы ўбаку тое, што не мне аднаму ўжо надакучыла «ўвага» мясцовых органаў ЖКГ да нашага двара (падчас мінулага добраўпарадкавання жыхары нашага дома ледзь не з каламі адстаялі цэлы шэраг цудоўных ліпаў, якія «парадкавальшчыкі» збіраліся знесці пад стаянку), пакідаючы ўбаку і абуральную навіну пра тое, што нешта робяць без абмеркавання, — прынамсі, у маёй сям'і ніхто згоды не пытаўся, — вымушана задаю сабе пытанне больш агульнага кшталту. А менавіта: ці не знайшлося ў фантазіях адказных за парадкаванне асобаў нечага больш дарэчнага за «маскоўскі дворык»?

Цяпер, калі ва Украіне, па сутнасці, ідзе бойня, увасабленне такой ідэі і пад такой назвай у цэнтры Мінска выглядае проста непрыстойна. Лепей бы ўжо паклапаціліся пра стан пад'ездаў! У доме 48а, напрыклад, шыбы ў лесвічных вокнах сям-там бітыя і практычна паўсюль брудныя, выклікае пытанні стан балконаў, з падвала патыхае каналізацыяй (даводзілася ўжо і ў санстанцыю звяртацца), а прыбіральшчыц з мясцовага ЖЭСа даводзіцца чакаць, нібы свята. Паклапаціліся б — і, можа, сам сабою ўзнік бы «Мінскі дворык», з якога не соромна гасцей праз пад'езд правесці. А такіх вось «маскоўскіх» нам не трэба!

**Міхась Пятровіч, Мінск**

## Нацысцкія свастыкі ў Гатаве

Шаноўная рэдакцыя «Нашай Нівы»! Колькі дзён таму заўважыў, што побач з маім домам у Гатаве нейкая шпана размалявала фашысцкай свастыкай тумбу для абвестак. Дзень прайшоў, другі… Ідучы на працу і вяртаючыся дадому, заўважаю ўсё тую ж дрэнь. Хаджу й думаю: ну калі яе замалююць нашы камунальнікі. Трэці дзень мінае, чацвёрты, тыдзень прайшоў… Самае цікавае, што тумба тая якраз насупраць мясцовага гатаўскага ЖЭСа. Таму камунальнікі, як і я, штодня заўважаюць тое, што і я, ідучы на працу і вяртаючыся дадому.

Хаджу і сам сабе думаю: вось калі б на гэтай тумбе намалявалі выяву Васіля Быкава ці напісалі «Жыве Беларусь!», то зацерлі б цягам гадзіны. Няўжо фашысцкая свастыка стала нормай для сённяшняга беларускага грамадства?

**Алесь Герасіменка, Гатава (Мінскі раён)**





Вось і ўсё, што засталося ад аўтавакзала «Маскоўскі». Яго знеслі, каб «Газпром» мог пабудаваць свой гмах.

**Юрый Маляраўскі, Мінск**

# Ён быў верным

*«Я хачу прайсці па зямлі,*
*Самым верным, любімым сынам».*
***Генадзь Бураўкін***

Вечарына памяці Генадзя Бураўкіна адбылася 2 верасня ў мінскім Палацы мастацтваў. Яе вялі старшыня Саюза мастакоў Рыгор Сітніца і паэт Леанід Дранько-Майсюк. Зала была перапоўнена.

Відэашэраг дазволіў зноў убачыць Генадзя Мікалаевіча падчас яго спатканняў з Васілём Быкавым, Рыгорам Барадуліным, Радзімам Гарэцкім, у працоўным кабінеце на тэлебачанні, у прадстаўніцтве ў ААН. Можна было адчуць цяпло яго вачэй і лагоду ўсмешкі, убачыць яго з матуляй, жонкай, дзецьмі і ўнукамі, пачуць ягоны голас.

Успамінамі пра студэнцкае сяброўства падзяліўся паэт Васіль Зуёнак. «З Генадзем мы жылі некалькі гадоў у інтэрнаце па вул. Няміга, 21. Нашы ложкі стаялі побач, галава да галавы, і я адчуваў чалавечае і паэтычнае дыханне майго сябра».

Песні на словы паэта выканалі Таццяна Матафонава і яе сын Адась. Вершы Генадзя Бураўкіна прачытала народная артыстка Зінаіда Бандарэнка.



Віктар Казько ўзгадаў сімвалічную гісторыю: «Студэнтам трэ было бегчы крос. У тыя 50-я гады яшчэ не было модных красовак. Малады Генадзь пабег, але на нагах у яго былі цяжкія боты. Тады ён скінуў нязручны абутак і пабег босы, па калючай дарожцы, пасыпанай жвірам. Балюча было паэту бегчы. Нехта падбадзёрваў яго з трыбуны: «Давай, цыбаты, давай!» Так і ў жыцці яму даводзілася хадзіць па вастрыі ляза. Але ён трываў, цярпеў і перамагаў!»

**Эла Дзвінская, Мінск**

# Данатас Баніёніс. Доўгае жыццё

4 верасня пайшоў з жыцця літоўскі акцёр Данатас Баніёніс. Яму было 90 гадоў, ён памёр у бальніцы ў Вільні ад інсульту. Ён пражыў доўгае жыццё. І, як кожны, хто пражывае доўгае жыццё, нацярпеўся. Старэйшы сын акцёра Эгідыюс, вядомы ў Літве гісторык, рана памёр ад раку. Шэсць гадоў таму Баніёніс пахаваў сваю жонку Ануцэ, з якой пражыў шэсцьдзясят гадоў. Пасля гэтага і ў самога Данатаса схапіла сэрца, яму ўшылі сардэчны стымулятар.

На 90-годдзе Літва ўзнагародзіла акцёра ганаровым знакам «Нясі сваё святло і вер», які ўручаецца ў асаблівых выпадках.



### З сям'і рэвалюцыянера

Бацька Данатаса Юозас Баніёніс быў сацыял-дэмакратам. Ён ствараў прафсаюзы, ладзіў забастоўкі, у 1919 сядзеў у турме, запісаўся ў камуністы. Камуністаў у міжваеннай Літве ганялі. Таму Баніёнісу-старэйшаму ў 1920-х нават давялося на некалькі гадоў эміграваць у Бразілію. А жонка засталася ў Літве з двума малымі на руках.

Сынава акцёрства партыец Юозас не ўхваляў: паставіў умову, каб Данатас перш скончыў рамеснае вучылішча, а тады рабіў што хацеў.

### Ніхто не хацеў паміраць

На тэатральнай сцэне Данатас Баніёніс стварыў больш за 100 вобразаў, у кіно сыграў 80 роляў. Сваёй найлепшай працай у кіно ён называў ролю ў фільме Жалакявічуса «Ніхто не хацеў паміраць». Баніёніс сыграў старшыню пасляваеннага літоўскага сельсавета, якому давялося змагацца з «ляснымі братамі». Акцёр перадаў усё тое, што разрывала душу і розум чалавека ў краіне, у якой ідзе грамадзянская вайна. А ў Літве менавіта што палала вайна пасля вайны. Ніхто не хацеў паміраць, але загінула 25 тысяч чалавек — пераважна мясцовых жа людзей. А 100 тысяч аказаліся ў Сібіры.

### Натхніў Пуціна

Нельга не прыгадаць і фільмы «Салярыс», «Мёртвы сезон» з удзелам Баніёніса. Зацвярджаць літоўца ў «Мёртвы сезон» на ролю разведчыка Ладзейнікава не хацелі як «недастаткова прыгожага», але за Баніёніса ўступіўся прататып галоўнага героя, былы рэзідэнт савецкай выведкі ў Вялікабрытаніі Конан Малады.

Уладзімір Пуцін прызнаваўся, што ісці працаваць у КГБ вырашыў, паглядзеўшы «Мёртвы сезон».

### Акцэнт пераагучвалі

Цікава, што літоўскі акцэнт Баніёніса быў настолькі моцны, што ў фільмах яго агучвалі расейскія акцёры. Толькі ў фільме «Сцеражыся аўтамабіля!» ён гаворыць сваім голасам і нават пералічвае грошы па-літоўску.

### Іграў у Беларусі

Баніёніс зняўся і ў беларускім фільме. Ён выканаў ролю пана Твардоўскага ў стужцы Віктара Турава «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» (1994).

**Сяргей Мікулевіч**

# Новая песня Сяргея Міхалка, Brutto: Underdog




У здымках кліпа на песню ўзялі ўдзел беларускія спартсмены Віталь Гуркоў (заслужаны майстар спорту, шматразовы чэмпіён свету, які выступае ў тайскім боксе і кікбоксінгу — на фота) і Сяргей Хаміцкі (чэмпіён Еўропы па боксе сярод прафесіяналаў па версіі WBO, інтэркантынентальны чэмпіён WBO).

Кліп зроблены ў той самай спартовай змагарскай стылістыцы, што і дэбютны Brutto, які выйшаў 1 верасня.

Гэта песня пра тое, што ніколі нельга здавацца. Рэфрэн песні такі:

На тебя никто не ставит,
Underdog,
Уважать себя заставишь,
Мир у твоих ног!

Underdog — гэта сабака, што ў сабачых баях аказаўся знізу. У пераносным сэнсе гэта заведамы аўтсайдар, чалавек, у поспех якога не вераць. Вось такога героя вывеў Сяргей Міхалок у сваім новым праекце.

**СГ**

### Фотафакт



Фота Людмілы Хейдаравай

**Да Дня беларускага пісьменства ў Заслаўі адкрылі помнік князю Ізяславу — пачынальніку дынастыі полацкіх князёў, у гонар якога быў названы горад.**

### Бібліятэка

**Пётр Друждж. Бітва пад Оршай**
Выдатная гістарычная белетрыстыка.

**Анатоль Грыцкевіч. Сцягі Оршы**
Прадмову напісаў Уладзімір Арлоў, а мастацкае афармленне зрабіў Зміцер Герасімовіч. У выданні 50 ілюстрацый. Каштуе 100 тысяч, але вартая таго. Першыя прэзентацыі кнігі прайшлі ў мінскім «Ротарыклубе» і на «Мове нанова», куды набілася 350 чалавек.




Пытайцеся ў кнігарнях «логвінаЎ», «Кніжны салон», «Акадэмкніга», у кнігароў imbryk.by, knihi.by, prastora.by ды іншых.

# «Мова нанова» пачала сезон: Мінск, Маладзечна, Магілёў, Гродна…

У Мінску курсы беларускай мовы праходзяць у галерэі «Ў» з удзелам сотні слухачоў.

У Маладзечне першыя заняткі бясплатных курсаў адбудуцца 15 верасня ў кавярні «Накат» (ГЦ «Тройка», 4 паверх) а 19-й. Той, хто прыйдзе на першыя заняткі ў беларускай вышыванцы, — атрымае ў падарунак фірмовы нататнік «Мовы нанова».

У Магілёве ж першы занятак моўных курсаў прайшоў 9 верасня ў цэнтры «Кола» (зав.Чкалава, 16). Тэмаю першых заняткаў стала бітва па Оршай.

Таксама моўныя курсы пачынаюцца ў Бабруйску, Гродне, Баранавічах, Брэсце, Віцебску, Нясвіжы. Інфармацыю пра іх можна знайсці на сайце movananova.by.



### Сцісла

**«Бардаўская восень» чакае герояў**

Фестываль «Бардаўская восень», які летась адсвяткаваў 20-гадовы юбілей, распачынае прыём заяваў на конкурсную праграму 2014 года. Фэст пройдзе ў апошнія выходныя кастрычніка ў Бельску, Беластоку ды навакольных мястэчках Падляшша — рэгіёна Польшчы, дзе спрадвеку жывуць беларусы.

Каб узяць удзел у конкурсе, трэба даслаць 1—2 песні ў дэмазапісах, фота і сваю кантактную інфармацыю на афіцыйную скрыню конкурснага адбору vosien2014@gmail.com. Да ўдзелу прымаюцца выключна аўтарскія музычныя творы на беларускай мове на ўласныя вершы альбо на вершы беларускіх паэтаў, выкананыя ў акустычным фармаце.

14 верасня ў Мінску пройдзе адборачны канцэрт (бар-клуб «ДК», вул.Талбухіна, 4). Заяўкі на ўдзел прымаюцца да 12 верасня.

**У Залессі — свята**

«Вяртанне Паўночных Афінаў» пройдзе 25 верасня ў вёсцы Залессе (Смаргонскі раён, Гродзенская вобласць). Гваздом праграмы канцэрт стане камернай музыкі аркестра Міхаіла Фінберга. Іграць будуць у тым ліку малавядомыя ў Беларусі творы Міхала Клеафаса Агінскага.

**Dzieciuki пераспявалі Купалаву «А хто там ідзе»**

Музыкі спадзяюцца, што песня стане харавой.

**СМ; БелаПАН**

# Візантыйскае выгнанне

Гісторыя Беларусі. Пра палітычную высылку полацкай эліты піша **Алег Дзярновіч**.

Пасля паланення менскага князя Глеба Усяславіча і яго смерці ў Кіеве ў 1119 Менск на працяглы час знікае са старонак летапісаў. Пад 1121 мы маем глухое паведамленне пра выправу кіеўскага князя Уладзіміра Манамаха з сваімі сынамі ў Смаленск для «ўціхамірвання» полацкіх князёў. Верагодна, князі абмяркоўвалі пытанне кампенсацыі Полацку за страту Менскай зямлі. Падаецца невыпадковым, што ў першай палове XII ст. на правым беразе Дняпра ўзнікае шэраг памежных замкаў, акрэсліваючы лінію смаленска-полацкай мяжы. Маскоўскі археолаг Леанід Аляксееў лічыць, што сам факт такога з'езду ў Смаленску сведчыць пра васальную залежнасць Полацка ад Кіева. Але тое, як тэрытарыяльныя супярэчнасці былі вырашаныя, не пацвярджае гэту версію.

### Гаральд ідзе на Полацк

Смаленскія дамоўленасці трымаліся да канца княжання Уладзіміра. Пасля смерці Манамаха ў 1125 на яго кіеўскі пасад заступіў старэйшы сын Мсціслаў Уладзіміравіч (1076—1132), вядомы таксама як Гаральд: Мсціслаў нарадзіўся ў шлюбе Манамаха і прынцэсы Гіты Уэсекскай, дачкі апошняга англасаксонскага караля Англіі Гаральда II Годвінсана, які загінуў ад рук нарманаў пад Гастынгсам у 1066. У сямейным коле княжыч Мсціслаў быў названы ў гонар англасаксонскага дзеда.

І ўжо ў 1127 адбываецца выправа паўднёварускіх князёў на чале з Мсціславам супраць Полацкай зямлі. У гэтый акцыі ўдзельнічала цэлая кааліцыя паўднёварускіх князёў. Паход быў добра спланаваны: кожны ўдзельнік кааліцыі скіроўваў удар на пэўны горад Полацкай зямлі. На Заслаўе (Ізяслаў) выправілі адразу чатыры дружыны. Горад знаходзіўся ля паўднёва-заходніх межаў Полацкай зямлі, што і тлумачыць яго значнасць: паводле Густынскага летапіса, Мсціслаў паслаў войскі «ў Літву да Ізяслаўля». Так усталяванне кантролю над Літвой стала адной з галоўных супярэчнасцяў паміж Кіевам і Полацкам. Асобныя аддзелы былі скіраваныя на Барысаў, Лагойск, Друцк. Мсціслаў Уладзіміравіч арганізаваў татальную акцыю пакарання Полацка.

### Паланенне Брачыслава

Полацкі пасад у той час займаў князь Давыд Усяслаўіч. Сын жа яго Брачыслаў княжыў у Ізяслаўлі ды быў жанаты з Ксеніяй, дачкой кіеўскага князя Мсціслава. Але ў дадзеным выпадку сямейныя сувязі не мелі значэння. Яшчэ адзін з Усяславічаў — Барыс — сядзеў у Барысаўскай валасці.

У жніўні 1127 падзеі разгортваліся імкліва. Малады князь Брачыслаў, які спяшаўся са сваёй дружынай з Ізяслава на дапамогу бацьку ў Полацк, нечакана трапіў у палон пад Лагойскам да аднаго з удзельнікаў кааліцыі. Жыхароў Лагойска гэтая навіна дэмаралізавала, і яны здалі Мсціславічам горад. Ізяслаўль жа быў аблажаны вялікім войскам. Калі месцічам паказалі іх князя паланёным, яны адчынілі браму перад нападнікамі. Зрэшты, гэта не ўратавала горад ад рабаванняў.



Візантыйская вайсковая эліта XII стагоддзя. Рэканструкцыя.

### Веча мірыць князёў

Драматычныя падзеі адбываліся і ў самім Полацку — сталіцы мяцежнага краю. Паведамленні летапісаў блытаныя, але зразумела, што палачане, змовіўшыся, скінулі князя Давыда Усяславіча і «паставілі» яго пляменніка. Пасля полацкая дэлегацыя з новаабраным князем вырушыла да Мсціслава Уладзіміравіча з просьбай зацвердзіць гэтае абранне. Гэта характэрны эпізод, бо сведчыць пра ролю Полацкага веча — сходу ўсіх свабодных гараджан, які і вырашаў найважнейшыя палітычныя пытанні стольнага горада і ўсёй зямлі. Працэдура вырашэння выглядала досыць хаатычна, але за знешнім хаосам стаялі этапы інтрыг і ўзгадненняў. Такім чынам, справу замірэння Полацка з Кіевам узяло ў свае рукі веча, якое, фактычна, было інстытутам патрыцыяту — гарадской вярхушкі.

Тут дарэчы будзе прыгадаць, што прававая інстытуалізацыя веча ў Полацку адбылася яшчэ за бацькам Рагвалода Васіля — князем Барысам Рагвалодам. Пазнейшая «Хроніка Быхаўца» (XVI ст.) захвала вобраз полацкага рэфарматара Барыса Рагвалода, які быў «ласкавы да падданых сваіх» і «даў ім вольнасці, і дазволіў мець веча, і ў звон біць [склікаць веча]».

### Васалы «з лаянкай» адмовіліся

Мсціслаў Уладзіміравіч пагадзіўся на прапанаваную яму камбінацыю, і ў 1227 полацкі князі дом трапіў у васальную залежнасць ад вялікага князя кіеўскага. Але гэты акт падпарадкавання не вырашыў дынастычных супярэчнасцяў. Калі ў 1229 Мсціслаў Уладзіміравіч захацеў выступіць супраць полаўцаў і звярнуўся да васалаў з заклікам супольна выступіць у паход, полацкія князі «з лаянкай» адмовіліся. Гэта было відавочным парушэннем умоваў міру 1227. Варта было чакаць паказальных дзеянняў у адказ.

Пасля паходу супраць качэўнікаў Мсціслаў Уладзіміравіч накіраваў ужо на Полачыну сваіх ваяводаў, каб тыя аб'явілі па ўсіх гарадах княства пра неправамерныя дзеянні іх князёў (Рагвалод Васіль памёр у 1128, і хто тады княжыў у Полацку, мы не ведаем). У гэты крытычны перыяд зноў уступаюць у дзеянне механізмы наўпроставай дэмакратыі — Полацкае веча не стала бараніць сваіх князёў і пагадзілася на мірнае вырашэнне канфлікту.

Род полацкіх Ізяславічаў быў вывезены ў Кіеў, дзе над імі адбыўся сімвалічны суд. Паводле выраку, усе прадстаўнікі дынастыі з сем'ямі былі сасланыя ў Візантыю. Прэцэдэнт ужо быў: у 1079 з дапамогаю хазараў з Цьмутаракані ў Царград вывезлі былога валынскага князя і хаўрусніка польскага караля Алега Святаслава (Гарыслава). А пазней, у 1162, Андрэй Багалюбскі выслаў у Візантыю суздальскіх князёў.

### Выключаныя з Рурыкавічаў

З летапісаў мы даведваемся імёны пакараных полацкіх князёў: Давыд, Расціслаў і Святаслаў Усяславічы, а таксама Васіль і Іван Барысавічы-Рагвалодавічы. Досыць нечакана, што ў летапісах гэтыя князі фігуруюць як крывіцкія. Полацкія Ізяславічы былі пасаджаныя ў тры чаўны. У кожны з іх магло сесці да сарака чалавек. Хутчэй за ўсё, князі былі выгнаныя са сваімі сем'ямі. Паводле візантыйскага пратаколу, у рускіх пасольствах кожны вяльможны пасланнік мог мець дзвюх слугаў.

Высылка стала этапнай падзеяй. Полацкая зямля была пазбаўлена ўласных дынастаў і цалкам падпарадкаваная Кіеву. Князем у Полацку Мсціслаў паставіў свайго сына Ізяслава — таго самага, які ў 1127 паланіў Барыса і паліў Ізяслаўль. Адначасова гэтай высылкай Рурыкавічы паказалі, што схіляюцца да «гуманнай» ліквідацыі канкурэнтаў.

Пасля высылкі нашчадкі Манамаха і яго найбліжэйшыя сваякі занялі ўсе асноўныя княскія сталы Русі. Але што ж спарадзіла такую вострую рэакцыю кіеўскага князя ў дачыненні да полацкай дзяржаўнасці? Падказку могуць даць рускія летапісы. Пад 1128 знаходзім фрагмент, які атрымаў назву «Устаўка пра Усяславічаў». Гэта той самы знакаміты сюжэт пра адмову Рагнеды выйсці замуж за Уладзіміра. Цікава, што аповед пра Ізяславічаў не звязаны з папярэднімі і наступнымі летапіснымі паведамленнямі. Фактычна мы маем справу з абгрунтаваннем супярэчнасцяў паміж нашчадкамі Уладзіміра і Рагнеды, галінамі князёў, якія ўвайшлі ў гісторыю як Яраславічы і Ізяславічы. Апошнія былі полацкімі князямі ды вялі свой род ад Ізяслава, які разам з маці Рагнедаю быў высланы Уладзімірам у Заслаўе. Кіеўскія летапісцы, відавочна на замову, вылучылі Ізяславічаў у асобную лінію і назвалі іх Рагвалодавічамі, што фактычна азначала — квазі-Рурыкавічамі. Высылка Ізяславічаў у Візантыю стала заканамерным вынікам барацьбы дзвюх варагуючых ліній унутры княскага дому Рурыкавічаў за права валодання Полацкай зямлёй. Гэта высылка стала найвышэйшай кропкай барацьбы, што вялася ад X ст. Але тады, у другой чвэрці XII ст., адбылося не толькі фізічнае выгнанне, але і ўнясенне зменаў у гістарычную памяць роду: «І з таго часу меч уздымаюць Рагвалодавы ўнукі на Яраслававых унукаў».

Але гэтае міжродавае напружанне нельга вытлумачыць толькі кіеўскімі інтрыгамі. Самыя Ізяславічы трымаліся родавых традыцый. Вывучэнне імёнаў усіх Рурыкавічаў XI — першай паловы XIII ст. паказвае, што сярод полацкіх князёў два прадстаўнікі дому мелі імёны Рагвалод, пяць — Усяслаў, чатыры — Брачыслаў; сястру Еўфрасінні Полацкай звалі Гарыславай, што адпавядала другому (славянскаму) імені Рагнеды. Сярод нашчадкаў Яраслава Мудрага імёны Рагвалод, Усяслаў, Брачыслаў адсутнічалі. Полацкія князі ставарылі ўласны іменаслоў і трымаліся яго, падкрэсліваючы гэтым уласную апрычонасць сярод рускай княскай карпарацыі.

### Месца ў візантыйскім войску

А як склалася жыццё полацкіх князёў у Візантыі? Імператар Іаан II Комнін, сын якога Аляксей быў жанаты з дачкой Мсціслава Уладзіміравіча Еўпраксіяй, гасцінна прыняў Ізяславічаў ды прызначыў ім месца ў войску. Вайсковая служба — адзін з галоўных заняткаў эліт таго часу. Полацкія князі ваявалі ў аддзелах, якія змагалася з новай пагрозай Візантыі — туркамі-сяльджукамі.

Мы не маем звестак пра жыццё Ізяславічаў на прасторах Візантыйскай Імперыі. Гісторыкі лічаць, што яны маглі, у адпаведнасці са сваім княскім статусам архонтаў, увайсці ў склад правінцыйнай вайсковай арыстакратыі сярэдняга ўзроўню. Малодшае пакаленне полацкіх выгнаннікаў атрымала традыцыйнае для візантыйскай вайсковай знаці выхаванне. І калі ў X—XI ст. выхадцы з Усходняй Еўропы складалі ў візантыйскім войску асобны варажска-рускі корпус, дык ад XII ст. яны ўваходзяць у вайсковую эліту імперыі, атрымліваючы зямельныя надзелы і паступова зліваючыся з візантыйскай знаццю.

Пра вяртанне Ізяславічаў і культурны росквіт Полацкай зямлі чытайце ў наступным выпуску «Гісторыі Беларусі».

# «Вінаваты? Будзеш адціскацца»

Асаблівасці вайсковага прання, выхавання і гумару. **Нататкі рэзервіста.** Піша Аляксандр Пятроўскі.



Салдат з'ядае торт з завязанымі рукамі на хуткасць падчас святкавання Новага года ў вайсковай частцы 19296 у Барысаве, студзень 2011.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Салдаты тэрміновай службы адрозніваюцца ад нас. Гэтаму спрыяе не толькі летняя спёка, але і вайсковы побыт з аднастайным харчаваннем, турботамі службы, пастаянным напружаннем. На тле загарэлых твараў вылучаюцца зіхоткія ўсмешкі. Штосьці, а зубы сапраўды белыя, чаго не скажаш пра брудную, зашмальцаваную форму (другі камплект у адпаведнасці з тэрмінам нашэння выдаецца толькі праз дзевяць месяцаў).

Мыць форму пажадана ў спёку, бо так яна хутчэй высыхае на целе. Вядома ж, якасць прання ў халоднай вадзе гаспадарчым мылам пакідае жадаць лепшага. Мой камуфляж таксама быў добра зашмальцаваны, але на 38 дзён першых збораў яго хопіць.

### Э-э-э, радно-о-о-й!

Войска не спрыяе выхаванню. Працяглае перабыванне ў нязменным атачэнні выклікае агрэсію. Ударыць саслужбоўца — звыклая з'ява для тэрміновых, як і нялюдскі зварот адзін да аднаго: «Э-э-э, радно-о-о-й!» Просяць-патрабуюць даць не цыгарэту, а «цыгару». Вы розніцу ведаеце — яны не. Нязгода, адказ на любое пытанне або аргумент трансфармуецца ва ўніверсальнае выслоўе: «Ты што, еб...ы?!» Можа, гэта наступства прыніжэння асобы, якое сыходзіць ад прапаршчыкаў і афіцэраў? Калі бясконца даводзіць, што салдат — нікчэмнасць і быдла, ён сапраўды такім стане. Тут у цябе няма свайго меркавання і голасу, здзекі прызвычайся глытаць моўчкі. Мацюкі камандзіраў моладзь пераймае аўтаматычна, моцна ўплывае статкавая свядомасць. Пра якую культуру можна казаць, калі камандзір брыгады Кароль, якому не спадабалася нязладжанае прывітанне, выказаўся на плацы: «Кто как хочет, так і др...т!»

### «Забраць у рэзервіста — палажняк»

...Крадзеж — натуральная з'ява ў войску. Крадуць усё, пачынаючы з формы і заканчваючы анучамі. Так, у саслужбоўца-рэзервіста Л. тройчы скралі сланцы, не звярнулі ўвагу і на тое, што апошнія, прывезеныя з дому, мелі пазнаку — на падэшве гарачым цвіком было напісанае прозвішча. Знікалі наўлечкі і прасціны...Здагадайцеся, навошта? Так, з іх рабілі падкаўнерыкі-падшывы.

Крадзеж у войску — не загана, а наступства натуральнага адбору. Для прыкладу паслухайце развагі аднаго салдаціка: «У войску не ў цябе скралі, а ты прая...ся. А забраць у рэзервіста — палажняк. Вы прыязджаеце на кароткія зборы і ўсё можаце купіць». Гэтыя ж хлапчыска ўпэўнена казаў, што ў войску ўсяму навучыўся і па дзембелі здолее куды заўгодна працаўладкавацца, а мы, рэзервісты, і жыцця зусім не ведаем.

Яшчэ быў выпадак, які бачыў на свае вочы: прапар заспеў «на гарачым» салдацікаў, якія неслі з кухні да бетоннага паркана паўмяха бульбы. Спробы вывесці іх на чыстую ваду поспеху не мелі, салдацікі гугнілі адно і тое ж: маўляў, узялі для сябе. Пры сведках прапаршчык іх і пальцам не зачапіў, а таму найгоршае, што гора-зламыснікі маглі атрымаць, гэта колькі дадатковых нарадаў па-за чаргой.

### Вайсковы гумар

«Захварэў? Найлепшы сродак ад болю ў горле — бег, ад галавы — прысяданні». З гумарам у войску праблемы. Жарты або «чорныя», кшталту жахалкі для сапёраў «адна нага тут, другая там», або вульгарныя.

Адчуванне ўласнай перавагі, якое дае ўлада над падначаленымі, дазваляе «жартаваць» наступным чынам: «Вінаваты? Будзеш адціскацца», прыгаворваючы: будзь дужым і разумным».

Лектар-ідэолаг Быкаў, які прамаўляў з паўзамі, рыхтык баксёры з показак, вучыў нас, што Рэспубліка Беларусь — самая міралюбівая краіна. Згодна з вайсковай дактрынай, наша дзяржава не мае ворагаў, але ў выпадку вайны «мы ўсіх пераможам, бо нашае войска самае моцнае». Наш смех выклікаў у яго задаволеную дзіцячую ўсмешку: ён жа лічыў свае жарты дасціпнымі і трапнымі.

### Выхаванне нагамі

Адзін прапаршчык казаў: «Каб служыць у войску, трэба яго любіць». З вопыту размоў з тымі ж афіцэрамі зрабіў выснову, што ў войску служаць пераважна: а) па сямейнай завядзёнцы, б) з нявыкруткі. Афіцэры, асабліва маладыя, наракаюць на малыя заробкі, доўгія чэргі на жыллё, адсутнасць перспектываў... Адвечная песня.

Афіцэры павінны паслугоўвацца ў сваіх дзеяннях статутам. Так, але правілы існуюць, каб іх парушаць. Вось выпадак, які бачыў на свае вочы, калі стаяў у нарадзе «на тумбе». Дзяжурны па роце, лейтэнант Андросік, «выхоўваў» салдаціка, які пагарэў на самаволцы. Афіцэр ударыў ПРАКУДУ ў грудзі, а потым завёў у свой кабінет, дзе ўжо даў волю і нагам. Абазнаныя скажуць, што жаўнеру пашанцавала, бо замест гаўптвахты яго толькі збілі, а Андросік, каб сябе не «падставіць», папрацаваў па індывідуальнай праграме. Што ж, сардэчна запрашаем у войска!

### Здаць па тысячы на шчоткі

Думаў, што дзе-дзе, а ў войску прыемных сюрпрызаў не бывае. Але з першага збору пашанцавала з'ехаць на два дні раней, чым значылася ў дакументах. Адпусцілі нас кіраўніцтва на свой страх і рызыку, папярэдне вылічыўшы з салдацкага месячнага заробку паўтары тысячы за гэтыя «выходныя» Як жартам казалі рэзервісты, каб з нагоды нашага ад'езду зладзіць банкет.

За дзень да звальнення вызначылася наша першая рота, два ёлупы з якой пайшлі ў самаволку за гарэлкай, так ім ужо карцела! Яшчэ некалькі разумнікаў выклікалі ў часць нарад міліцыі. За гэта камбат пагражаў звольніць усіх ноччу. Таму памятайце, таварышы: за правіну аднаго могуць пацярпець усе. Вось такое яно, справядлівае вайсковае выхаванне.

У дзень звальнення жанчына на складзе не хацела прымаць у нас форму. Казала, што сёння субота, скарочаны працоўны дзень, ёй прывядуць каня капаць бульбу, і... хай увесь свет пачакае. Гэта, канечне, нагода для роты рэзервістаў, каб пасядзець у Z. да панядзелка. І тут паўстаў народ. Праз некалькі хвілін пабрахенькі, шчодра перасыпанай мацюкамі, у якой, апрача рэзервістаў, на «феміністку» накінуўся і прапаршчык, кабета, скрозь слёзы, нарэшце адчыніла склад.

А перад ад'ездам мы здалі па тысячы прапару Швайбовічу: «Вы тут месяц пажылі, падлогу падрапалі, умывальнік пабілі, шчоткі паламалі...» Забягаючы наперад, скажу, што падлога так і не была пафарбаваная.

*Працяг будзе.*

# Жывёлавод

Гумарэска. Піша **Аляксандр Апон.**

На праспекце Пераможцаў у Мінску сустрэліся два прыяцелі: лысы і сівы.

**Лысы:** Алег, ты?!

**Сівы:** Я! Віталік?

**Лысы:** Ён! Вось і пабачыліся. Не спадзяваўся, далібог не спадзяваўся!

**Сівы:** І я. Дык давай, братка, абдымемся: дваццаць гадоў мінула, як развіталіся.

**Лысы:** Дваццаць пяць.

*Абдымаюцца.*

**Сівы:** Але ты стаў здаравяк. А калісь шкілетам за вочы называлі.

**Лысы:** І ты, гляджу, не з галоднага краю прыбыў.

**Сівы:** Не, не з галоднага: часцяком думаеш, як не з'есці, чым наадварот. Ну, а як гэткі слаўны плех займеў?

**Лысы:** Ха-ха... А на сябе ў люстэрка даўно глядзеў?

**Сівы:** Што люстэрка, надысь у метро дзяўчына месца саступіла. Сядай, кажа, дзядуля, а то ножкі стаяць забаляць.

**Лысы:** І мяне даўно дзяўчаты ва ўтыль спісалі, я на іх нават увагі не звяртаю, каб не засмучацца дарэмна. Ну, дзе ты цяпер? З чаго жывеш? Ты ж пасля ўніверсітэта без следу прапаў.

**Сівы:** Я ж у Амерыку адразу падаўся, там і жыву. У горадзе Сэнт-Пол, штат Мінесота. Дом, жонка, дзеці, сабака. Увогуле, стоадсоткавы янкі.

**Лысы:** А працуеш дзе — у газеце ці мо на тэлебачанні?

**Сівы:** Не, на будоўлі, муляр я.

**Лысы:** Хто? Муляр?

**Сівы:** Муляр, і, ведаеш, да таго напрактыкаваўся, што з заплюшчанымі вачыма быў сцэнку вымуроўваў. Ды вось якая гісторыя здарылася: з рыштаванняў упаў, чатыры рабры паламаў, нагу, руку выкруціў. Год па шпіталях, потым страхоўку выплацілі. Цяпер мільянер. Вось па свеце езджу, у Парыжы быў, у Рыме. Ну і пра родную старонку не забыўся. Пацягнула на вёску маленства зірнуць. Я ж з Мядзельшчыны, з Ліпнішак.

**Лысы:** І што, змянілася вёска?

**Сівы:** Ага, плот новы вакол могілак паставілі, а больш нічога. А ты?

**Лысы:** А што я, як і быў — тут усё.

**Сівы:** Працуеш?

**Лысы:** Вядома.

**Сівы:** І дзе, калі не сакрэт?

**Лысы:** Які там сакрэт — у сферы, так бы мовіць, жывёлагадоўлі асталяваўся.

**Сівы:** Ды ну цябе! Фермер?

**Лысы:** Не, на гаспадара завіхаюся.

**Сівы:** А што гадуеце?

**Лысы:** Рознае: трусоў, бараноў, казлоў, таксама аслоў.

**Сівы:** Аслоў?!

**Лысы:** Ага, і мулаў.

**Сівы:** А іх навошта?

**Лысы:** За цягавітасць і пакорлівасць.

**Сівы:** І добра зарабляеш?

**Лысы:** Грэх скардзіцца: катэдж пад Мінскам маю, джып «БМВ». Сына ў Англіі вучу, дачку. У Нямеччыне. Яшчэ палюбоўніцу завёў, бо якая ўжо з жонкі каханка... Цяпер во якраз ад яе. Марусяй клічу, як нашую выкладчыцу мовы. Памятаеш?

**Сівы:** Дзіва што! На Беларусі ўсе Марусі. Дык ты бос?

**Лысы:** Дзе там, просты клерк.

**Сівы:** Ого! Якая ж у вас, у такім выпадку, гаспадарка?

**Лысы:** Ды немалая, агулам некалькі мільёнаў галоў набярэцца, але дакладна невядома.

**Сівы:** Як гэта: хіба вы іх на Палессі, на балотах трымаеце, што няможна падлічыць?

**Лысы:** Не, тут, хоць і на Палессі, вядома, ёсць. Во глядзі *(паказвае рукой на мінакоў на праспекце)* — яны. Але некатарым усё нешта трэба, усё мала; увесь час гойсаюць туды-сюды, шастаюць, як злодзеі, лётаюць, быццам ім маторчык у адно месца ўставілі...

**Сівы:** Чакай-чакай, нешта я не дапетру: гэта ты пра што?

**Лысы:** Ну, ведаеш, зусім ты ў гэтай Амерыцы кемнасць згубіў *(глядзіць на ручны гадзіннік)*. Ага, якраз трэцяя. Вунь на рагу «Гарызонт», падыдзем.

*Ідуць да крамы, за вітрынай якой тузін уключаных тэлевізараў і ў кожным — Лысы.*

**Лысы** *(па тэлевізары)*: Со следующего года работаем как в Финляндии. Такую задачу поставил президент во время посещения Республиканского лесного селекционно-семеноводческого центра. В частності он сказал...

## ХАКЕЙ

### Першыя гульні КХЛ




**Рэгулярны чэмпіянат Кантынентальнай хакейнай лігі** прыйшоў у Беларусь. 12 верасня а 19 гадзіне на «Мінск-Арэне» «Дынама» прыме «Атлант» з Мыцішчаў. А 14 верасня — маскоўскі ЦСКА. Пачатак а 17.

## ФУТБОЛ

### Тур 23

**13—14 верасня пачынаюцца матчы другога этапа чэмпіянату Беларусі па футболе.** У суботу сустракаюцца:
БАТЭ (Барысаў) — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна);
«Мінск» — «Белшына» (Бабруйск);
«Слуцк» — «Дынама» (Брэст).
У нядзелю:
«Нёман» (Гродна) — «Дняпро» (Магілёў);
«Дынама» (Мінск) — «Шахцёр» (Салігорск) — цэнтральная сустрэча тура;
«Нафтан» (Наваполацк) — «Гомель».

## КАНЦЭРТЫ

### «Нельга забыць»

**12 верасня ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы (Купалы, 4)** адбудзецца канцэрт гурту «Нельга забыць». Пачатак а 19. Уваход вольны.

### Піт Паўлаў

**12 верасня ў Shaka Bar (Скрыганава, 6а)** адбудзецца акустычны канцэрт Піта Паўлава. Пачатак а 19. Білеты — 60-80 тысяч рублёў.

### «Гаротніца»

**12 верасня ў клубе «Графіці» (зав.Калініна, 16)** пройдзе канцэрт гурту «Гаротніца». Пачатак а 20. Білеты — 50-60 тысяч рублёў.

### «Бачу ўпершыню»

**13 верасня ў клубе «Салтайм» (пр.Незалежнасці, 131/1)** адбудзецца канцэрт гуртоў «Бачу ўпершыню», «Рэ мажор», Sumarok і Okna. Уваход — 50 тысяч.

### Noize MC

**13 верасня ў парку забаў Dreamland (пр.Пераможцаў)** у рамках тура «Hard Reboot» адбудзецца канцэрт Noize MC (Расія) з прэзентацыяй альбома «Усё самае лепшае». Спецыяльныя госці —DJ Alex Mad і гурт Weesp. Білеты — 255—355 тысяч рублёў.

## ІМПРЭЗЫ

### Аўтограф-сесія Віктара Марціновіча




**Вядомы пісьменнік і журналіст выдаў новы раман «Мова».** Аўтограф-сесія пройдзе 10 верасня ў кнігарні «Логвінаў» (пр. Незалежнасці, 37а). Пачатак а 19.

### Юбілей Аршанскай бітвы

**Прэзентацыя беларускамоўнага выпуску польскага гістарычнага часопіса Mówigwieki,** прысвечанага Аршанскай бітве, пройдзе ў сядзібе выдавецтва «Галіяфы» (Валгаградская, 4а) 13 верасня. Пачатак а 17.

## ВЫСТАВЫ

### XXY

**Да 2 кастрычніка ў Галерэі сучаснага мастацтва «Ў» (пр.Незалежнасці, 37а)** дзейнічае выстава XXY. Выстава не прызначаная для прагляду асобамі, маладзейшымі за 18 гадоў, а таксама не рэкамендуецца да прагляду асобам, якія прытрымліваюцца кансерватыўных поглядаў на сэксуальныя адносіны.

### Чалавек і горад

**Да 27 верасня ў Музеі сучаснага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** працуе персанальная выстава жывапісу народнага мастака Уладзіміра Тоўсціка «Чалавек і горад». Выстава прысвечана 65-годдзю Уладзіміра Тоўсціка і прымеркавана да Дня горада.

## ТЭАТРЫ

### 11 верасня

**Музычны** — «Сон Дон Кіхота»
**Оперы і балета** — «Кармен»
**Беларускай драматургіі** — «Містар Розыгрыш»







### Дзень горада

**13 верасня Мінск адзначыць сваё 947-годдзе.** Ля Палаца спорту адкрыюць самы вялікі кірмаш з гандлёвымі радамі на 13 тысяч квадратаў. Горад майстроў, спаборніцтвы па сілавым экстрыме і фестываль маладзевых субкультур. Гэта невялікая частка мерапрыемстваў, прысвечаных Дню горада. Пляцоўка ля Верхняга горада стане сцэнай пад адкрытым небам. Свае ўмельствы прадэманструюць сярэднявечныя рыцары. Свята 13 верасня завершыцца ўскладаннем кветак да стэлы «Мінск — горад-герой» (21.30) і святочным феерверкам (22.00). Таксама 13 верасня Дні горада пройдуць у іншых кутках Беларусі.

### 12 верасня

**Оперы і балета** — вечар балета «З стагоддзя XIX — у стагоддзе XXI»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»
**Музычны** — «Юнона і Авось»

### 13 верасня

**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»

### 14 верасня

**Музычны** — «Залатое кураня»
**Музычны** — «Блакітная камея»
**Оперы і балета** — «Рыгалета»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»

### 15 верасня

**Оперы і балета** — вечар балета «З стагоддзя XIX — у стагоддзе XXI»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

### 16 верасня

**Купалаўскі** — «Хам»
**Музычны** — «Сапраўдная гісторыя паручніка Ржэўскага»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»
**Оперы і балета** — «Яўген Анегін»

### 17 верасня

**Музычны** — «Соф'я Гальшанская»
**Купалаўскі** — Translations
**Оперы і балета** — «Тамар. Шахеразада»
**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»

## КІНО

### Прыхадні-навукоўцы

Сігнал
**Жанр:** фантастыка, трылер
**Рэжысёр:** Уільям Юбэнк
**У ролях:** Брэнтан Туэйтс, Лорэнс Фішбёрн, Алівія Кук, Бо Нап, Лін Шэй, Роберт Лонгстрыт
ЗША, 86 хв.

Тры студэнты — Джона, Нік і Хэйлі — накіроўваюцца ў Каліфорнію на машыне. Падчас прыпынку ў гатэлі Нік і Джона высвятляюць, што хакер Nomad адсачыў іх месцазнаходжання і дасылае ім пагрозы. Яны вылічваюць, што хакер знаходзіцца ў закінутым доме ў Невадзе, і вырашаюць паехаць туды. Але дом аказваецца пустым. Пакуль Джона і Нік абшукваюць яго, Хэйлі знікае, а самі хлапцы губляюць прытомнасць. Нік апрытомнівае ў дзіўным месцы, падобным да навукова-даследчага цэнтра. Ён апантаны ідэяй знайсці сваіх сяброў.

Візуальна бездакорная фантастыка — другая рэжысёрская работа Уільяма Юбэнка (першая — «Любоў», 2011), прафесійнага аператара. Фільм расказвае трохі дзіўную фантастычную гісторыю пра іншапланетнікаў у класічным ключы: кантакт і эксперыменты над людзьмі. Стужкі не хапае моцнага сцэнара і напоўненасці сэнсам, хоць гэта ў некаторай ступені кампенсуецца загадкавасцю падзей (якія, аднак, канцоўка цалкам не тлумачыць) і моцным візуальным шэрагам, у якім кожны кадр — твор аператарскага майстэрства.

**Настасся Уласава**



# На зямлі Карфагена

Пра адпачынак у Тунісе піша **Сяргей Харэўскі**.

Самалёт пераляцеў Сіцылію, што была бачная ўся чыста як на далоні, бліснуў ва ўсе бакі ўльтрамарын мора, паказаліся зялёныя горы, лапікі палёў і садоў, а затым разгарнулася неабсяжная Сахара...

Па што людзі імкнуцца ў Туніс? Па чыстае паветра, што задзімае з усіх бакоў Міжземнамор'я, б'ецца ў горы і перамешваецца з духам Сахары. Па чыстае мора і чыстыя прасторы зямлі, не знявечаныя вялікай індустрыяй. Па ўражанні ад тысячаў помнікаў гісторыі і культуры, важныя для ўсяго чалавецтва, бо калісь тут вырашаўся лёс цывілізацыі, у сутыкненнях Карфагена і Рыма, хрысціянства і ісламу. Па камфортны адпачынак на курортах са стагадовымі традыцыямі. Па маўрытанскую экзотыку Магрыба, што дасёння існуе тут у сваім натуральным штодзённым выглядзе.



Дзверы ў Тунісе — сапраўднае мастацтва. Каваныя, разбяныя, размаляваныя...



**Туніс**

Дзяржава на поўначы Афрыкі (суседзі – Лівія і Алжыр). Плошча 163610 кв. км. Насельніцтва – 10,8 млн чалавек. Сталіца – Туніс, дзяржаўная мова – арабская. Турызм займае другое месца ў структуры нацыянальнага прыбытку.

## Мужчынскі свет

Уяўленне пра краіну можна скласці па трох рэчах: могілках, рынках і ...прыбіральнях. У Тунісе могілкі дагледжаныя, поўныя людзей па пятніцах, рынкі — найбагацейшыя, нібы з арабскіх казак, дый камфортныя прыбіральні тут паўсюль, нават у вёсках. Хоць і з тутэйшым каларытам: у палове прыбіральняў жаночых аддзяленняў проста не прадугледжана.

Гэта мужчынскі свет: мужчыны кіруюць краінай, войскам, бізнэсам, нават дэпартаментам па справах жанчын. Справа ў непарыўнасці архаічных традыцыяў: людзі жывуць у прапрадзедаўскіх дамах, трымачатырма пакаленнямі пад адным дахам, дзе кіруюць свае мафусаілы.

Па вечарах мужчыны напаўняюць тамтэйшыя атмасферныя маўрытанскія кавярні: моцная, каламутная, салодкая, як сіроп, гарбата з мятаю, яшчэ мацнейшае — café turc, гушчэзная кава па-турэцку, якую без вады і не пракаўтнеш, а вечарамі — кальянны курадым... Аднае начы, заблукаўшы ў лабірынце сярэднявечнага горада Набёль, памкнуліся ў адзін такі «мужчынскі клуб», з жонкаю і дачкою. Наведнікі расступіліся, пайшлі пыхаць кальянамі на вуліцу, а дзіця ўтаропілася ў тэлевізар, дзе выпадкова ішоў мультфільм «Том і Джэры». Падобны да ўсохлага Эркюля Пуаро гаспадар абслужыў нас пастарасвецку манерна і не даваў іншым наведнікам пераключаць тэлевізар, пакуль дзіця цікавала за прыгодамі ката і мыша. Барадатыя правэнджаныя дымам заўсёднікі здзіўлена-замілавана сачылі за намі. Мы для іх былі дзівам. За пару кварталаў ад раёна гатэляў і офісаў. Большасць тунісцаў, недатычных да індустрыі турызму, жыве як і сто гадоў таму...

## А вакол — блокпасты

Туніс вабіць мільёны турыстаў з усяго свету. У гатэлі, дзе жыў я, былі госці з 12 краін. Вельмі шмат людзей прыязджае сюды на адпачынак і па медыцынскія паслугі найвышэйшае якасці з суседніх Алжыра і Лівіі. Безліч нашых колішніх суайчыннікаў з краеў СНД, турыстаў з Літвы, Чэхіі, Славакіі, Польшчы, якіх вабяць надзвычай танныя кошты. Багата едзе ў Туніс італьянцаў, немцаў і скандынаваў. На маё пытанне, з якой краіны найбольш адпачывае турыстаў у іх, яны іранічна перапытвалі, ці ж здагадаюся я сам, калі Туніс быў калоніяй Францыі? Да 2 мілёнаў французаў за год! «Для іх гэта як для савецкіх людзей быў Крым!» — кажа экскурсавод, у якога жонка родам з Сімферопаля. Тут, у гарадах, амаль усё французскае: машыны, дызайн, банкі, сеткі супермаркетаў. «Але яны — баязліўцы! Нікуды не высоўваюцца з гатэляў, за межы асобных зонаў!» Гэтая інфармацыя мяне напружыла, і я стаў пільней углядацца ў паўсюдныя блокпасты і ў мясцовыя тэленавіны. Так і ёсць: у самім Тунісе дзейнічаюць тэрарысты, а на межах з Алжырам і Лівіяй перманентна ідуць баі... Нашы айчынныя тураператары пра гэта «тактоўна» не папярэджваюць.

## Разрабаваныя рэзідэнцыі

Насупраць гатэля, у якім я жыў, — велізарная рэзідэнцыя былога прэзідэнта Бэн Алі. Сады вакол палаца закінутыя, усё пасохла. Скінуты дыктатар Бэн Алі ўцёк чатыры гады таму са сваімі «залатымі батонамі» некуды на Блізкі Усход.

Яго рэзідэнцыі і аб'екты трапляюцца ў розных кутках Туніса. Цяпер яны закінутыя і засмечаныя. Жаласлівае відовішча — ссохлыя шыкоўныя сады і паркі вакол. У Хамамеце з гэтых садоў тубыльцы пакралі нават водаправодныя трубы, адвінцілі і зламалі ўсё што можна. Нават бы́дла пасвяць!

## Начное жыццё ў Рамадан

Я быў у Тунісе падчас святога для мусульманаў месяца Рамадан. Люблю я такую пару ў ісламскіх краінах. Удзень ціха і бязлюдна. Прававерныя не мусяць ад узыходу сонца да заходу піць, есці, паліць і нават пляваць. Большасць кавярняў і крамаў замкнутыя. Затое як хораша слухаць гэтую старажытную цішыню, у якой чуваць плёхат кожнае марское хвалі, якую парушаюць толькі гукі азанаў — заклікаў да малітвы з мінарэтаў.

Затое ўначы тут усё бруіць імпэтным і радасным жыццём. Рыхтык на Каляды. Як толькі закоціцца сонца — пачынаюць працаваць дзіцячыя атракцыёны! Мы бясклапотна і разняволена снаўдаліся па мястэчках і гарадах Туніса найчасцей уначы. Тады там закіпаюць на ўсю моц рынкі, крамы і рэстарацыі. Людзі вясёлымі натоўпамі выходзяць на вуліцы. Арабскія ночы бясконцыя, вязкія, нібы мёд, і п'янкія, як кальянны кумар. Людзі жывуць уначы на ўсю моц, адпачываючы, а, перадусім, працуючы! Але з раніцы ўсё зноў выглядае бадзёра, пуста, чысценька і нечакана прасторна... Рамадан!

## Карфаген і іншыя атракцыі

Большасць турыстаў імкнецца ў Туніс дзеля Карфагена. Цяжка паверыць, што гэты горад быў супернікам Рыма ў Міжземнамор'і. Руіны не ўражваюць. Іх можна зблытаць з дзясяткамі іншых раскапаных антычных гарадоў. А вось сам наратыў уражвае моцна...

Каб лёс быў на баку Ганібала, то невядома яшчэ, якімі б літарамі й лічбамі мы паслугоўваліся сёння. За адзін дзень старжытны Карфаген, які быў плошчаю амаль з сучасны Мінск, абысці нерэальна.

Прадметам асаблівага гонару Туніса й усяго Міжземнамор'я ёсць Нацыянальны музей Бардо — збор антычнага і ісламскага мастацтва, што месціцца пры палацы халіфаў, у зялёным парку, атачаным афрыканскімі пяскамі, у прадмесці Туніса. Сёння гэта ці не найбуйнейшы ў свеце музей мазаікі Бардо. І гэта самы лепшы паводле арганізацыі прасторы і даступнасці экспазіцыі музей класічнага мастацтва, які я бачыў. Тут рэчы, знаёмыя мне ажно з дзяцінства, па кніжках, часопісах, падручніках. Напрыклад — прыжыццёвы мазаічны партрэт Вяргілія.

Нас уразіла і Віла Себастыяна ў Хамамеце. Гэты дом, пабудаваны ў 1920 заможным румынам Георгіем Себастыянам, — унікальная выспа памяці жывой. Тут былі Андрэ Жыд, Жорж Бернанос, Эжэн Ёнэска. Тут высыпаўся «ліс пустыні» генерал Ромель, а за ім, у той самай спальні, але па вайне — Чэрчыль, які пачаў тут свае мемуары.

Магутнае ўражанне на любога чалавека зробіць і бела-блакітны горад Сідзі Бу Саід. Дзіўнае, невымоўна ўтульнае і сваістае мястэчка, намаляванае двума колерамі... Тут жыло й бывала багата мастакоў, сярод іншых — Казімір Малевіч і Васіль Кандзінскі, Аўгуст Макэ ды Паўль Клее. Тут жылі французскія класікі — пісьменнікі Флабэр, Шатобрыян, Гі дэ Мапасан. Але, перадусім, у ім ёсць магутная містычная сіла і невымоўная прыцягальнасць.

## Дух Магрыба

Сталіца Туніса — горад кантрастаў! У адрозненне ад еўрапейскага Мінска, там ёсць агульны непарыўны безбар'ерны асяродак: скошаныя бардзюры на пераходах, пандусы і парэнчы паўсюль, вадазлівы з дахаў л'юць ваду не пад ногі мінакоў, як у нас, а некуды пад зямлю — у ліўнёўкі пад вуліцамі, а пешаходныя вуліцы і пляцы займаюць ладную часту цэнтра горада, дзе можна шпацыраваць, не азіраючыся на машыны... Але на краі горада, з каталіцкай катэдрай, аркадамі пасажаў, рускай царквою і абсалютна еўрапейскага выгляду буцікамі і рэстарацыямі, ляжыць тамтэйшая сярэднявечная медына — стары горад, куды турыстам хадзіць не раяць. Тут пануе дух Магрыба — кабеты ў чадрах, маўклівыя старыя ў берберскіх балахонах, аслы і вярблюды ў дварах, надзейна зачыненыя ў Рамадан кавярні, крамы і офісы, самлелыя ад шчырага посту і спёкі людзі, якія ляжаць проста на ходніках. Іншасвет...

Вой, ледзь пра мора не забыўся! Па шчырасці — найлепшае, што я бачыў у жыцці. Шмат чысцюткіх бялюткіх пляжаў уздоўж бязлюдных пустак між мястэчкамі. Часам можна ўбачыць «пірацкія» караблі ды сапраўдныя рыбацкія чаўны з багатай здабычаю.

Знайшоў я ў Тунісе ўсё, што шукаў: чыстае паветра, неабсяжныя прасторы некранутае прыроды, безліч помнікаў усіх эпох, незабыўную экзотыку і досвед штосядзённага чужога людскага жыцця.





ВОЛЬГА БЫКОЎСКАЯ, РУХ.BY

**На Крапівенскім полі пад Оршай 6 верасня прадстаўнікі незалежнага грамадства адзначылі Дзень беларускай вайсковай славы. Святкаванне адбывалася ў паўлегальных умовах. Прысутнічалі гісторык Алесь Краўцэвіч, мастакі Алесь Пушкін і Мікола Купава, пісьменнік Уладзімір Арлоў (на фота ў цэнтры).**



**Вікторыя Азаранка ўпершыню за шэсць апошніх гадоў вылецела з першай дваццаткі рэйтынгу WTA. Яна цяпер займае 24-ы радок. На Адкрытым чэмпіянаце ЗША па тэнісе беларуска змагла дайсці толькі да чвэрцьфіналу. Большую частку сезона Азаранка прапусціла праз траўму.**



**Герцагіня Кембрыджская Кейт Мідлтан цяжарная другім дзіцем. У ліпені 2013 года ў герцага і герцагіні Кембрыджскіх нарадзіўся першынец, якога назвалі Джорджам Аляксандрам Луі (на фота). Прынц Джордж — трэці ў чарзе на спадчыну брытанскага пасаду.**



БЕЛТА

**Беларускі гісторык, філакартыст і калекцыянер Уладзімір Ліхадзедаў з дапамогай тэхналогій XVI стагоддзя ўзнавіў Біблію першадрукара Францыска Скарыны. Кніга аддрукаваная на саматробнай ільняной паперы, усяго на аднаўленым станку было выраблена сем асобнікаў скарынаўскай Біблії.**

## Анекдоты і жарты

* * *

Ідучы на шаснаццаты паверх пешшу, грузчык Мікалай падабраў сто сінонімаў да словазлучэння «кепскія ліфцёры».

* * *

— Я вырашыў ашчадзіць на вяселлі.
— Як?
— Вяселля не будзе

* * *

Пуцін выставіў сем умоваў спынення агню ва Украіне: Данецк, Луганск, Днепрапятроўск, Харкаў, Запарожжа, Мікалаеў і Адэса.

* * *

Для прастытуткі Анжэлы паход у саўну — гэта адзіны спосаб сустрэцца з дэпутатам сваёй акругі.

* * *

Дзяржава пайшла насустрач. Ніхто ўхіліцца не змог.

* * *

«Прыбіраем падручнікі, бяром двайныя аркушы» — самыя страшныя словы дзяцінства.

* * *

— Чаму псіхіятры такія ветлівыя са сваімі пацыентамі?
— Бо ведаюць, што іх пацыенты вызваленыя ад крымінальнай адказнасці.

* * *

Пісаць карціны — гэта творчасць, прадаць іх — мастацтва.

* * *

— Купіў сабе новенькі «Поршэ», езджу.
— Ого! Як ты так змог?
— Даведаўся, што «Поршэ» выпускае яшчэ і ровары.

## «НН» сто гадоў з вамі

**За доўгі язык.** На пані двара Новая Зямля Пінскага павета Алену Сташэвічыху і яе дачку Алену Сташэвічышку «за распаўсюджванне баламутных чутак аб вайне» наложаны штраф 2000 рублёў або пасядзець два месяцы кожнай. За гэта ж самае па загадзе губернатара сеў на тры месяцы бабруйскі жыхар — Мэглянд.

**«НН». №36. 1914.**

**Пуцін запаволенага дзеяння.** «Расія губляе федэратыўны характар. У шматнацыянальнай і поліканфесійнай Расіі гэта фактычна паварот да імперскага ладу палітычнага жыцця. Навошта, здавалася б, Расіі выбары пад кантролем? Але расейская ўлада, відаць, ужо дайшла да таго стану, што і беларуская, — калі нават адзін-два нямоцных галасы пратэсту «ў сістэме» ўспрымаюцца як пагроза», — лічыць палітолаг Віталь Сіліцкі.

**«НН». №34. 2004.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
наместнікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by
**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.
Наклад 7100. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 09.09.2014.
Замова №3706.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 14034